10 студзеня 2020 | № 1 (660)
Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

novychas.by
АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

•КУЛЬТУРА •ГРАМАДСТВА •ЭКАНОМІКА
•ЛЮДЗІ •ПАДЗЕІ •ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**Эфект Ведзьмака**
Стар. 9

4
**ГУАНА ПА ЎНУТРЫРАСІЙСКІХ ЦЭНАХ**

«Каменны век скончыўся не таму, што скончыліся камяні», — заўважыў міністр нафтавай прамысловасці Саудаўскай Аравіі шэйх Закі Яман. Па гэтай жа прычыне скончыцца і стагоддзе вуглевадародаў

5
**РУБЛЁВАЯ СТРАТЭГІЯ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ**

Урад Беларусі і Нацыянальны банк зацвердзілі Стратэгію павышэння даверу да нацыянальнай валюты да 2035 года



6–7
**«Я ДУМАЛА, ДЗЕНЬ НАРАДЖЭННЯ СЫНА БУДЗЕ САМЫМ СТРАШНЫМ У МАІМ ЖЫЦЦІ»**

Штогод на планеце каля 15 мільёнаў дзяцей нараджаюцца неданошанымі — у сярэднім гэта кожнае дзясятае дзіця

10–11
**ДВАНАЦЦАЦЬ ПАСТАК НАВАМОЎЯ**

Па тэлебачанні, у сеціве, на старонках газет усцяж сустракаецца навамоўе — таталітарны жаргон, што адбірае свабоду

# Акно магчымасцяў



Сяргей ПУЛЬША

**Краіна ўжо другі тыдзень жыве ва ўмовах нявызначанасці. Расія і Беларусь не ўзгаднілі кантракт па пастаўках нафты, таму наш «саюзнік» перакрыў вентыль. Расія спыніла пастаўкі сыравіны на беларускія НПЗ. Тыя працягваюць работу, але іх загрузка зніжаная да мінімальнага тэхналагічнага ўзроўню.**

Мы вымушаныя круціцца. Ужо заключаныя кантракты з «Транснафтай», якая паставіць на нашы заводы 133 тысячы тон нафты. Падключыўся сябар Лукашэнкі Міхаіл Гуцырыеў, яго «РусНафта» і «Нафтыса» таксама дадуць аб'ёмы для перапрацоўкі — спачатку «Нафтану», потым і Мазырскаму НПЗ. І гэта не дзіва, бо адным з акцыянераў прадпрыемства ў Мазыры з'яўляецца «Слаўнафта», кіраўніком якой калісьці быў той самы Гуцырыеў.

Увогуле, дзіўная сітуацыя. Атрымліваецца, што «Газпром Нафта» і «Раснафта», якія валодаюць зараз «Слаўнафтай», ствараюць праблемы для свайго ж структурнага падраздзялення. У іх — амаль палова (42,58% акцый) Мазырскага НПЗ, і яны адмаўляюцца пастаўляць сыравіну свайму ж (напалову) прадпрыемству. Гэта яшчэ раз пацвярджае: нафта ў Расіі — катэгорыя не эканамічная і не сыравінная, а палітычная. І яе пастаўкі — палітычная зброя, што не падпарадкоўваецца эканамічным інтарэсам, падавалася б, камерцыйных кампаній.

Але што мы бачым — дакладней, чаго не бачым, — у гэтай сітуацыі? Галоўнае, чаго мы не пабачылі, — неба на зямлю не звалілася. Катастрофы не адбылося. Краіна нармальна адсвяткавала Новы год, адзначыла праваслаўнае Раство, адкалядавала. Бензін па талонах прадаваць не сталі, тэмпература ў кватэрах не знізілася (хаця, з такім надвор'ем, маглі б тапіць і меней), цягнікі ходзяць, грамадскі транспарт працуе па графіку. Дык ці крытычная для жыцця краіны тая самая «танная нафта», без якой, як думалі многія, Беларусь загнецца? Ці вартая яна разнастайных інтэграцыйных картаў, якія мы падпісвалі, уласна, з-за той самай нафты? Ці варта дзеля яе гандляваць суверэнітэтам?

Затое чарговым разам нам было прадэманстравана на ўласным досведзе: крызіс — гэта не толькі нястачы, але і акно магчымасцяў. Першую магчымасць ужо нават скарысталі — заключаць кантракты на пастаўку сыравіны наўпрост з пастаўшчыкамі, а не выкарыстоўваць для гэтага міжурадавыя пагадненні. Канешне, так будзе даражэй, але што можа быць даражэйшае за незалежнасць?

Эксперты ўсур'ёз абмяркоўваюць праекты, якія раней падаваліся выключна фантастыкай. Напрыклад, рэверс нафтаправоду «Дружба» — каб нафта пастаўлялася не з Беларусі ў Польшчу, а з Польшчы ў Беларусь. Гэтая нафта таксама будзе даражэйшая, бо, фактычна, гэта «рээкспарт» расійскай жа сыравіны на нашы НПЗ. Аднак вялікі плюс у тым, што пастаўкі пры гэтым не абумоўленыя рознымі інтэграцыйнымі планамі.

Задумаліся і над варыянтам паставак нафты з Азербайджану і Казахстану. Прычым, не толькі звыклым марскім шляхам праз Украіну, але і транзітам праз Расію. У Крамлі паскрыгочуць зубамі, але наўрад ці перакрыюць транзіт — інакш мы адкажам адэкватна (сёння, нягледзячы на нашы праблемы, транзіт расійскай нафты ў Еўропу не спынены і ідзе ў звычайным парадку).


Калаж www.finobzor.ru

**Ці крытычная для жыцця краіны «танная нафта», без якой, як думалі, Беларусь загнецца?**

Літоўскія кампаніі ўжо выказалі гатоўнасць перавозіць у Беларусь да трох мільёнаў тон нафты на год. У пастаўках нафты для Беларусі могуць быць задзейнічаныя кампанія Klaipedos nafta з тэрміналам па прыёме сыравіны і марскі порт Клайпеды. Для арганізацыі паставак Літве трэба максімум два тыдні, за гэты час беларусы павінны адправіць літоўцам заяўку, а таксама цыстэрны.

Што да загрузкі нашых НПЗ бліжэйшым часам, то, пакуль ёсць «вольныя» магутнасці, нашы заводы могуць не ствараць тавар, а аказваць паслугі. То-бок, перапрацоўваць тую ж самую «давальніцкую» нафту, з адпраўкай нафтапрадуктаў замоўніку. Канешне — за грошы. Тым больш, што досвед такой працы ў іх ёсць — трэба толькі накіраваць адпаведныя прапановы зацікаўленым бакам. А для нас плюс не толькі ў грошах, але і ў непарыўнасці цыклу працы прадпрыемстваў.

І, безумоўна, пакуль няма нафты — самы час для ўсялякіх прафілактычных работ і чарговага цыклу мадэрнізацыі прадпрыемстваў. У тым ліку і канчатковай ліквідацыі наступстваў траплення на нашы заводы «бруднай нафты» з Расіі ў красавіку 2019 года. Дарэчы, за гэты інцыдэнт з намі таксама яшчэ не разлічыліся.

Карацей, нафты навокал, насамрэч, — заваліся. Трэба толькі час і грошы, каб наладзіць гэтыя пастаўкі. Канешне, усе гэтыя варыянты — даражэйшыя за «субсідаваную» Расіяй сыравіну. Але вялікі плюс (не стамлюся гэта паўтараць) у тым, што гэтыя варыянты не прадугледжваюць ніякай «паглыбленай інтэграцыі». Толькі бізнес — і нічога лішняга.

Хто ведае, можа быць, такімі тэмпамі ўзгадаюць і выказаную чвэрць стагоддзя таму Партыяй БНФ ідэю Балта-Чарнаморскага нафтавага калектара, які б праз краіны Балтыі, Беларусь і Украіну (магчыма, і Польшчу) звязаў бы парты Чорнага мора з Балтыкай? Цяпер, гледзячы на праблемы з нафтавымі пастаўкамі і ідэі рэверсу «Дружбы», тая думка падаецца ўжо далёка не фантастыкай.

Шкада толькі, што мы страцілі 25 гадоў, сцвярджаючы, што няма альтэрнатыў Расіі, і гэтыя альтэрнатывы папросту не шукалі. Ці будзем паўтараць памылкі?

# За незалежнасць — больш за 50 судоў

НЧ

**Пасля працяглых святаў краіна ўваходзіць у звыклае рэчышча. З 8 снежня зноў запрацаваў «судовы канвеер». У судах Мінска і рэгіёнаў праходзяць адміністрацыйныя працэсы ў дачыненні да тых людзей, што выходзілі на акцыі за незалежнасць Беларусі.**

Усяго, паводле дадзеных праваабаронцаў, 8–10 снежня павінна адбыцца больш за паўсотні судовых працэсаў. Збольшага абвінавачванні простыя — артыкул 23.34 Кодэкса аб адміністрацыйных правапарушэннях (удзел у несанкцыянаваных масавых мерапрыемствах). Такімі ўлада палічыла выступы 7, 8, 20 і 21 снежня мінулага года.

8 снежня судзілі «першую партыю» ў судзе Маскоўскага раёна. Актывістку Алену Талстую суддзя Юлія Варакса прысудзіла да штрафу ў 50 базавых велічыняў (1350 рублёў). Віктар Савіч на пасяджэнне не прыйшоў. У выніку яго судзілі не толькі за акцыю 7 снежня, але і за 20 і 21 снежня, то-бок па трох пратаколах. Агулам суддзя Лідзія Целіца прысудзіла яму 25 базавых велічыняў (675 рублёў). Анархіст Вячаслаў Касінераў атрымаў ад суддзі Таццяны Мотыль штраф у 30 базавых велічыняў (810 рублёў). Жонка Вячаслава Марына Касінерава была аштрафаваная на тую ж суму суддзёй Юрыем Машкетавым.

Сяргей Антончык у суд не з'явіўся па сямейных абставінах. Суддзя Віктар Казак завочна прысудзіў яго да штрафу ў 30 «базавых».

Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў Мікалай Трафімчук на пасяджэнне прыйшоў, аднак сведкі — міліцыянты Сувораў і Бахановіч — не з'явіліся. Тым не менш, суддзя Юлія Варакса прысудзіла яму 20 базавых велічыняў (540 рублёў). Святар Леанід Акаловіч атрымаў ад Юрыя Машкетава штраф у 30 «базавых».

Актывіст Legalize Belarus Міхась Варанцоў падаў хадайніцтва аб вядзенні працэсу на беларускай мове. Суддзя Лідзія Целіца ў адказ выдала яму штраф у 30 «базавых».

Актывістка «Моладзевага блоку» Алана Гебрэмарыям хадайнічала аб азнаямленні з матэрыяламі справы. Суддзя Таццяна Мотыль хадайніцтва задаволіла і абвясціла перапынак. Пасля перапынку Гебрэмарыям выказала адвод суддзі, але гэтае хадайніцтва ўжо задаволенае не было. Але пад такім ціскам суддзя адправіла справу на дапрацоўку.

Расклад некаторых працэсаў вельмі парадаксальны. Напрыклад, 9 студзеня павінны двойчы судзіць Максіма Урбановіча, які і так адбывае 15 сутак арышту (да 11 студзеня) за акцыю пратэсту супраць інтэграцыі з Расіяй 7 снежня. Адзін працэс з суддзёй Есьманам у судзе Цэнтральнага раёна Мінска прызначаны на 9.15 раніцы, а другі, з суддзёй Таццянай Акавітай, — на 9.30. Пры гэтым Акавітая ў 9.15 павінна разглядаць справу Андрэя Хранкова, а ў 9.45 таго ж Хранкова павінен судзіць Есьман. Алену Янушкоўскую ў 9.15 будзе судзіць суддзя Юлія Густыр, а ў 9.30 — усё той жа Есьман.

Мовазнаўцу і былога пасла Беларусі ў Нямеччыне Пятра Садоўскага 9 снежня ў 12 гадзін судзіць Юлія Густыр, а ў 12.15 — ужо Іван Касцян.

Журналістку «Новага Часу» Дзіяну Серадзюк будуць судзіць 10 студзеня, якраз у дзень друку газеты, — быццам за ўдзел у акцыі пратэсту супраць інтэграцыі з Расіяй 20 снежня. Але Дзіяна ў час гэтай акцыі была на занятках па англійскай мове.

Бачна, што беларускае «правасуддзе» мае намер укласціся ў 15 хвілін на разбор справы. Канешне, за гэты час ніякага сапраўднага судовага разгляду адбыцца не можа: суддзя паспее хіба што зачытаць падсуднаму яго правы і вынесці вырак. Значыць, выракі ўжо напісаныя загадзя, што не мае ніякага дачынення да «правасуддзя».

І тым не менш, Урбановіч атрымаў ад Есьмана штраф у 50 базавых велічыняў, і яшчэ 50 базавых — ад Акавітай. Андрэй Хранкоў быў аштрафаваны той жа Акавітай на 50 базавых, і на столькі ж — ад Есьмана. Алена Янушкоўская аштрафаваная Юліяй Густыр і Валерыем Есьманам на 30 базавых ад кожнага суддзі.

Атрымалі штрафы і статусныя апазіцыянеры. Мікалаю Казлову суддзя Іван Касцян прысудзіў штраф у 50 базавых у Цэнтральным судзе Мінска, і яшчэ 50 базавых штрафу яму дала Алена Жывіца ў Кастрычніцкім судзе сталіцы. Андрэй Шарэнда аштрафаваны на 50 базавых Юліяй Густыр, Анатоль Лябедзька атрымаў 30 базавых у судзе Фрунзенскага раёна. Ганну Шапуцьку суддзя Юлія Шут аштрафавала на 25 базавых. Павел Севярынец, які таксама адбывае тэрмін на Акрэсціна, быў пакараны на 50 базавых, мовазнаўца і пасол Пётр Садоўскі суддзёй Іванам Касцянам па аднаму пратаколу аштрафаваны на 30 базавых. Другі пратакол адпраўлены на дапрацоўку.

Мастак Алесь Марачкін асуджаны суддзёй Барысёнкам на 30 базавых велічынь штрафу, а сацыял-дэмакрат Ігар Барысаў ад суддзі Наталлі Дзядковай атрымаў «толькі» 15 базавых велічынь. На 50 базавых велічынь аштрафаваны Сяргей Спарыш. Алена Талстая аштрафаваная на 50 базавых. Тацціяна Севярынец: у Першамайскім судзе Віцебска па двух пратаколах атрымала агулам 60 базавых велічынь штрафу.

А Лявон Баршчэўскі, кандыдат філалагічных навук, перакладчык, былы намеснік дырэктара Беларускага гуманітарнага ліцэя, абурыўся: у пратаколе пазначана, што ў яго сярэдняя адукацыя, а не вышэйшая, як тое ёсць на самай справе. У выніку справу адправілі на дапрацоўку.

Увогуле, цяпер суды ў асноўным абышліся штрафамі — прычым даволі буйнымі, якія людзям сплаціць будзе складана. Няўжо суды сапраўды спадзяюцца «сабраць грошы» з тых, хто выйшаў у абарону незалежнасці і суверэнітэту краіны?

Цікава, ці ўсведамляюць суддзі, што тыя, каго яны каралі, змагаліся ў тым ліку і за іх, суддзяў? Бо, калі Расія паглыне Беларусь, суды ж вокамгненна зробяцца расійскімі, і гэтых суддзяў наўпрост выкінуць з іх утульных фатэляў?

Варта было б суддзям таксама памятаць, што «вынясенне заведама неправасуднага прысуду, рашэння альбо іншага судовага акту» выклікае пакаранне да трох гадоў пазбаўлення волі, а ў тых выпадках, калі гэты прысуд прынёс цяжкія наступствы, — да 10 гадоў. «Рашэнне і іншы судовы акт», пра якія гаворыцца ў артыкуле 392 сённяшняга Крымінальнага кодэкса, — гэта і вырак па адміністрацыйнай справе таксама.

Людзі, якіх цяпер судзяць, абаранялі незалежнасць краіны, што па Канстытуцыі — Асноўным законе — ёсць іх не проста правам, але і абавязкам. Суддзі, якія выносяць «прысуды» за 15 хвілін, павінны ж разумець: Лукашэнка не вечны, а Гугл памятае ўсё.

# Новы Жыллёвы кодэкс: палёгкі і трывогі

Павел КІРЫЛАЎ

**У галіне ЖКГ 2020 год прынясе і дрэннае, як падвышэнне лічбаў у нашых жыроўках, і добрае, як шэраг палёгкавых зменаў паводле абноўленага Жыллёвага кодэксу. Ён з 1 студзеня ўжо ўступіў у сілу.**

Напярэдадні Новага года Аляксандр Лукашэнка зрабіў так сабе падарунак беларусам у выглядзе ўказу «Аб устанаўленні тарыфаў на жыллёва-камунальныя паслугі для насельніцтва на 2020 год». У разліку на двухпакаёвую кватэру з трыма жыльцамі плошчай 48 квадратных метраў «камуналка» вырасце прыкладна на 5 долараў. Адбудзецца гэта двума этапамі. Спачатку са студзеня падымуцца тарыфы на газа-, электра- і водазабеспячэнне, па капітальным рамонце, абыходжанні з адкідамі, санітарным утрыманні дапаможных памяшканняў жылога дома. А з лета — на цеплазабеспячэнне і гарачую ваду. Гэтае падаражанне мы адчуем істотна ўжо ў наступным ацяпляльным сезоне — зімой 2020–2021 гадоў. Пасля прэзідэнцкай выбарчай кампаніі.

Дарэчы, нагадаем, што з 1 траўня так званым дармаедам (або незанятым у эканоміцы) давядзецца плаціць па падвышаных тарыфах за цепла- і газазабеспячэнне. Спачатку планавалася, што гэта адбудзецца з 1 кастрычніка 2019 года, але ўрад адтэрмінаваў цяжар. За гарачае водазабеспячэнне гэтыя катэгорыі грамадзян плацяць ужо год.

Паколькі з 1 студзеня павялічылася базавая велічыня з 25,5 да 27 рублёў, то, адпаведна, вырастуць і штрафы, якія разлічваюцца яе на падставе. У тым ліку тыя, якія тычацца правілаў пражывання ў жылых дамах. Напрыклад, калі паліце ў пад'ездзе, то можаце атрымаць штраф да 4 базавых велічыняў, а калі надта шуміце і справакуеце тым самым справядлівыя скаргі суседзяў — да 30 «базавых». Тыя ж, хто сістэматычна хуліганіць у інтэрнатах (будзе тры разы прыцягнуты за такія ўчынкі да адміністрацыйнай адказнасці), будуць высяляцца адтуль. Такую магчымасць наймадаўцам дае абноўлены Жыллёвы кодэкс.

Прыняцце яго новай рэдакцыі наспела таму, што з'явілася шмат розных указаў кіраўніка дзяржавы, датычных сумеснага домаўладання і жыллёва-камунальных паслугаў. Напрыклад, змяняецца прынцып аплаты шэрагу паслугаў ЖКГ. Гаворка пра паслугі па тэхнічным абслугоўванні ліфта, санітарным утрыманні дапаможных памяшканняў жылога дома, прыкрыццё выдаткаў на электраэнергію, спажытую на асвятленне дапаможных памяшканняў шматкватэрнага жылога дома і працу абсталявання. Плата за іх будзе спаганяцца не паводле колькасці зарэгістраваных жыльцоў кватэры, як раней, а з разліку плошчы в ўласнасці ўладальніка кватэры. Гэта слушна, зважаючы на такое паняцце, як доля ў праве ўласнасці на агульную маёмасць (тую, што ў жылым доме па-за вашай прыватнай кватэрай). Логіка тут такая: пад'езд, дах, прылдаравая тэрыторыя таксама належыць жыльцам дома адпаведна плошчы іх кватэраў. Таму і расходы на іх утрыманне ў належным стане павінны размяркоўвацца таксама прапарцыйна. Карацей, уладальнік «чатырохпакаёўкі» будзе плаціць за такія паслугі болей, чым той, хто мае «аднушку».

Капітальны рамонт будзе абмяркоўвацца з жыльцамі на адмыслова скліканым сходзе за 10 дзён да пачатку патрэбных працаў: замоўнік павінен распавесці пра гэтыя працы, заключыць дамову на аказанне паслугаў, прадставіць падрадчыка. Дарэчы, рахункі, на якія залічваюцца сродкі на капрамонт, атрымаюць статус спецрахункаў. Яны стануць недатыкальнымі.

Агульныя сходы таварыстваў уласнікаў ці забудоўнікаў праводзіць цяпер будзе лягчэй і зручней. Правамоцным сход будзе лічыцца, калі на яго збяруцца не меней за палову домаўладальнікаў, а рашэнні можна будзе зацвярджаць большынёй галасоў. Што праўда, такія важныя рашэнні, як ліквідацыя таварыства або адчужэнне ўласнасці падчас рэканструкцыі, павінны будуць прымацца дзвюма трацінамі галасоў. Раней патрэбныя былі сто працэнтаў. А галасаванні можна ладзіць цяпер завочным электронным чынам — напрыклад, у закрытых суполках сацыяльных сетак.

Паводле новага Жыллёвага кодэксу, устаноўленыя дадатковыя патрабаванні да кандыдатаў на пасаду старшыні праўлення таварыства ўласнікаў ці арганізацыі забудоўнікаў.

«Дзейнасцю праўлення арганізацыі ўласнікаў кіруе старшыня праўлення арганізацыі ўласнікаў, які абіраецца на тэрмін, што не перавышае пяці гадоў, у адпаведнасці са статутам арганізацыі ўласнікаў. Старшыня праўлення арганізацыі ўласнікаў абіраецца з ліку сяброў арганізацыі ўласнікаў або асобаў, якія не з'яўляюцца чальцамі арганізацыі ўласнікаў. Старшыня праўлення арганізацыі ўласнікаў абіраецца з ліку грамадзян, якія маюць вышэйшую адукацыю або якія маюць сярэднюю спецыяльную (тэхнічную, эканамічную, юрыдычную) адукацыю і стаж працы на кіруючых пасадах у арганізацыях жыллёва-камунальнай гаспадаркі і (або) кіравання нерухомай маёмасцю не менш за пяць гадоў, а таксама пасведчанне аб праходжанні прафесійнай атэстацыі», — гаворыцца ў дакуменце.

Пасля выбару старшыні на агульным сходзе ўласнікаў ягоная кандыдатура павінна быць затым узгодненая з мясцовымі ўладамі. Якія могуць быць наступствы? Дэфіцыт такіх кадраў з указаным стажам і падвышэнне кошту іх паслуг? І, магчыма, такім чынам дзяржава хоча ўзяць дзейнасць таварыстваў уласнікаў, фармальна самастойных і незалежных, пад свой кантроль. Паглядзім, як гэта норма будзе выконвацца на практыцы.

І яшчэ з новага. У Жыллёвым кодэксе прапісана магчымасць для малазабяспечаных беларусаў, якія жывуць у арэндных кватэрах, пераводзіць такія кватэры ў сацыяльнае жытло, за якое не трэба будзе плаціць. Але зрабіць гэта можна толькі адзін раз і менавіта з ужо канкрэтным займаным арэндным памяшканнем. І гэта не можа быць, як раней, пакой з агульнай кухняй, а павінна быць як мінімум аднапакаёвая кватэра.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Наперад, за дасягненнямі!

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Шчыра скажу — я вельмі люблю фантастыку. Таму і цікаўлюся рознымі прагнозамі і праграмамі беларускага ўраду. Праўда, апошнім часам нашы міністры мяне ў гэтым плане не радуюць. Аднак цешыць, што яны паступова, дробнымі крокамі, але набліжаюцца да рэальнасці.**

Напрыклад, урад Беларусі пастанавай №3 ад 3 студзеня 2020 года зацвердзіў сярэднетэрміновую фінансавую праграму рэспубліканскага бюджэту на 2020–2022 гады. Лічбы там даволі цікавыя. Напрыклад, тэмпы росту ВУП краіны прадугледжаныя на ўзроўні 101,9% у 2020 годзе, 101,4% — у 2021-м і 102,1% — у 2022-м.

Канешне, паказчык росту ВУП у 1,5–2% на год — даволі рэальны. Зразумела, на ім адаб'ецца расійскі «падатковы манеўр», які пазбавіць Сінявокую даволі значнай часткі даходаў ад нафтаперапрацоўкі. Аднак у гэтым дакуменце ёсць і даволі трывожны званочак. А менавіта: разам з планаваным ростам ВУП у 1,9% у гэтым годзе інфляцыя («індэкс росту спажывецкіх цэнаў») складзе 5%. У 2021-м, пры планаваным росце ВУП у 1,4%, інфляцыя плануецца на ўзроўні 4,5%. А ў 2022-м рост ВУП павінен скласці 2,1%, а інфляцыя — 4%.

То-бок, нават пры запланаваным росце ВУП павелічэння дабрабыту беларусаў чакаць не варта — яго фактычна «з'есць» інфляцыя. Канешне, можна звыкла напампаваць краіну «пустымі» грашыма (што вельмі спакушальна напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў), але чым гэта адгукнецца, мы неаднаразова бачылі.

Яшчэ адна цікавая катэгорыя. Плануецца, што памер стаўкі рэфінансавання (у сярэднім за год) складзе 9,5% у 2020 годзе, 9,25 — 10% у 2021-м і 8,5 — 9,75% — у 2022-м. Цяпер стаўка рэфінансавання — 9%.

Згодна з гэтым паказчыкам разлічваюцца, напрыклад, крэдыты для насельніцтва. На факце стаўка рэфінансавання ў бліжэйшыя тры гады застанецца прыкладна на цяперашнім узроўні. А гэта азначае, што запланаванага на 2021 год уводу паўнавартаснага іпатэчнага крэдытавання насельніцтва не будзе. Для таго, каб увесці іпатэку, стаўка крэдыту ў ідэале павінна быць 5–7% гадавых, а банкі цяпер даюць грошы ў лепшым выпадку на памер стаўкі рэфінансавання плюс 3%. Гэта азначае — 12%. Так што тым, хто разлічвае на іпатэку, давядзецца чакаць яшчэ вельмі доўга. Можа быць, да канца жыцця.

Да таго ж, у нас будуць і іншыя выдаткі, якія могуць унесці разлад ва ўсе прагнозы ўраду, асабліва сярэднетэрміновыя. Днямі Аляксандр Рыгоравіч сустрэўся з прэзідэнтам Міжнароднай федэрацыі хакея (IIHF) Рэнэ Фазэлем. І запэўніў спартовага функцыянера ў тым, што Беларусь і Латвія арганізуюць у 2021 годзе адзін з лепшых чэмпіянатаў свету па хакеі.

«Я вельмі ўдзячны Міжнароднай федэрацыі і асабіста прэзідэнту за тое, што вы падтрымалі гэты чэмпіянат свету ў Беларусі і Латвіі. Вы можаце не сумнявацца: мы разам з нашымі суседзямі на годным узроўні правядзём гэты чэмпіянат. Гэта будзе адзін з лепшых чэмпіянатаў свету. Я вам гэта цвёрда абяцаю», — заявіў Лукашэнка.

Імаверна, кіраўнік Беларусі выканае сваё абяцанне — Чэмпіянат свету па хакеі, які праходзіў у Беларусі ў 2014 годзе, міжнароднымі чыноўнікамі ад гэтага віду спорту быў прызнаны ці не лепшым па арганізацыі. Аднак нам ад гэтага не горача і не холадна, бо пакуль ніводныя маштабныя гульні для нашай краіны не былі прыбытковыя — мы зазнавалі толькі страты. Паводле розных падлікаў, на правядзенне ЧС–2014 было выдаткавана ад 700 мільёнаў да 2 мільярдаў долараў, а выручка склала ўсяго каля 15 мільёнаў еўра. Праўда, кажуць, што ў асноўным былі выдаткі на інфраструктуру — дарогі, гатэлі і гэтак далей, якія цяпер будаваць не давядзецца, але тым не менш.

**Пакуль ніводныя маштабныя спартовыя гульні для нашай краіны не былі прыбытковыя — мы зазнавалі толькі страты. Паводле розных падлікаў, на правядзенне ЧС–2014 па хакеі было выдаткавана ад 700 мільёнаў да 2 мільярдаў долараў, а выручка склала ўсяго каля 15 мільёнаў еўра**

Паказальны, напрыклад, ужо леташнія Еўрапейскія гульні. На іх краіна выдаткавала 270 мільёнаў долараў. А колькі мы зарабілі — дагэтуль невядома, бо міністр фінансаў адмовіўся адказваць на адпаведнае пытанне Ганны Канапацкай у парламенце. А потым гэтая тэма неяк забылася за выбарамі ў Палатіу прадстаўнікоў.

Аднак у тое, што Еўрапейскія гульні былі прыбытковымі, ніхто не верыць. Усё ж — не той маштаб падзеі.

Канешне, можна шмат казаць, што мы «ўклаліся» ў пазнавальнасць Беларусі ў свеце ды імідж краіны ў цэлым. Але, падаецца, мы выдаткоўваем шалёныя грошы на тое, што потым імгненна руйнуем. Вось і днямі Міністэрства інфармацыі Беларусі вынесла пісьмовае папярэджанне ТАА «Медыятэк», уладальніку сайта tvbox.by. На думку беларускага «міністэрства праўды», «Медыятэк» з дапамогай tvbox.by распаўсюджвае замежныя тэлепраграмы (тэлеканалы), не маючы на тое адпаведнага дазволу рэгулятара.

Праблема заключаецца ў тым, што «Медыятэк» не распаўсюджвае замежныя СМІ, а аказвае паслугу па афармленні доступу да прагляду замежных СМІ ў інтэрнэце, працуючы на ўнутраным рынку (з выплатай падаткаў) і за беларускія рублі. Сітуацыя вельмі падобная на тую, што паўстала некалькі гадоў таму з адказнасцю за рэкламу, якая размяшчаецца на сайтах кампаній Яндэкс і Google. Праўда, тады пайшлі дарогай здаровага сэнсу.

Эксперты адзначаюць два фактары, якія маглі быць падставай для «наезду» на не асабліва вядомага аператара доступу да IPTV. Па-першае, гэта канкурэнцыя паміж буйнымі пастаўшчыкамі IPTV — гэта Белтэлекам з Zala TV і А1 з VOKA TV. Да таго ж Белтэлекам нядаўна запусціў свой ТБ-канал «Яснае-TV». Нягледзячы на тое, што гэта пераробленны канал «Мінск TV», з ім зараз носяцца, як быццам гэта дасягненне ўсіх часоў і народаў.

Некаторыя кажуць, што пісьмовае папярэджанне Мінінфарму на адрас IPTV-аператара — выразны пасыл усялякім Netflix, Amazon, Apple і іншым TV, што асобна ўзятая ў цэнтры Еўропы краіна пакуль не гатовая да з'яўлення легальна зарэгістраваных прадстаўніцтваў, філіялаў, рэсэлераў такіх сэрвісаў на ўнутраным рынку. І, адпаведна гэтаму, разлічваецца і ўзровень інвестыцыйнага клімату ды індэкс спрыяння дзелавой ініцыятыве.

Такім чынам, убухваючы мільёны долараў у хакей ды спартовыя гульні, чыноўнікі Сінявокай адначасна прыкрываюць хай не вельмі вядомы і раскручаны, але канал прагляду таго самага хакею і тых самых спартовых гульняў.

Так і хочацца ўзгадаць фразу з вядомага фільма: «І яны яшчэ змагаюцца за ганаровае званне дома высокай культуры побыту!»

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Алег Волчак

**У праваабаронцы і былога следчага прайшлі дваператрусы ў сувязі з забойствам жанчыны, парэшткі якой знайшлі ў Свіслачы.**

Ператрусы прайшлі на падставе таго, што кватэра Волчака знаходзіцца побач з месцам, дзе знайшлі торбу з парэшткамі. Да таго ж знікла і нейкая жанчына, якая нібыта заходзіла ў кватэру, дзе жыве зводны брат праваабаронцы. Волчак, з братам — уласнікі гэтай кватэры.

«Аператыўнікі сказалі, што мой брат сустракаўся з мясцовай дзяўчынай, якая злоўжывае спіртнымі напоямі, і яна ў той жа прамежак часу знікла. Яны палічылі, што тая неўстаноўленая жанчына можа быць гэтай дзяўчынай», — сказаў Волчак.

Цікава, што ператрус па гэтай справе праходзіў толькі ў кватэры Волчака — з усяго шматкватэрнага дома. Аднак, па словах праваабаронцы, следчыя, якія праводзілі ператрусы, паводзілі сябе карэктна.

Урэшце, цела забітай жанчыны знайшлі на вуліцы Раманаўская Слабада — даволі далёка ад кватэры Волчака. А падазраванага ў забойстве затрымалі аж у Віцебску.



## Яўген Вапа

**Тыднёвік беларусаў Польшчы «Ніва», якім кіруе Яўген Вапа, атрымаў 475 тысяч злотых (амаль 112 тысяч еўра) датацыі ад польскіх уладаў.**

Датацыя з бюджэту немалая, але згаданых фінансавых сродкаў хапае толькі на мінімальнае забеспячэнне працы тыднёвіка, сказаў у інтэрв'ю «Польскаму радыё» галоўны рэдактар «Нівы» Яўген Вапа. Паводле яго, гэтых сродкаў хапае толькі на друк і заробкі журналістам. Ужо некалькі гадоў запар фінансаванне застаецца на тым жа ўзроўні, пасля змяншэння ў 2010–2016 гадах.

«Ніва» — гэта найбуйнейшае выданне беларускай нацыянальнай меншасці, гісторыя якога сягае да 1956 года. Рэдакцыя тыднёвіка знаходзіцца ў Беластоку. Газета выходзіць на беларускай мове і асвятляе штодзённае жыццё беларусаў у Польшчы, дзейнасць грамадскіх арганізацый, друкуе матэрыялы па краязнаўстве, змяшчае артыкулы, прысвечаныя актуальным падзеям на Беларусі. Выходзіць старонка для дзяцей «Зорка», перыядычна змяшчаюцца тэматычныя ўкладкі. Газета сталася важным чыннікам яднання беларускага насельніцтва ў Польшчы.



## Сяргей Вязовіч

**Беларускі экіпаж упершыню ў гісторыі сусветнага ралі-рэйду «Дакар–2020» лідзіруе ў агульным заліку грузавікоў.**

Капотны МАЗ пад кіраўніцтвам Сяргея Вязовіча перамог на другім этапе легендарнага марафону, які праводзяць 41 год запар.

Другі этап прывёў гоншчыкаў у тэхнагорад Неом на паўночным захадзе Саудаўскай Аравіі. Працягласць спецучастка склала 367 кіламетраў. У адрозненне ад першага заезду, які стаў выпрабаваннем для пілотаў, гэтым разам праверку прайшлі штурманы. Прытрымлівацца маршруту аказалася няпроста, і многія экіпажы гублялі на гэтым час. Беларускі штурман Павел Гаранін таксама дапускаў памылкі, але ўсё ж вывеў капотны МАЗ на першае месца. За беларусамі прыехалі расійскія экіпажы Дзмітрыя Сотнікава і Андрэя Каргінава. Беларусы занялі першы радок і ў «абсалюце».

На трэцім этапе, што праходзіў па камянях і пясках ля Неома (спецучастак даўжынёю 427 кіламетраў), беларусы прыйшлі другімі. Першым быў расіянін Андрэй Каргінаў, але ён не змог «дагнаць» беларусаў па часе, і наш экіпаж пакуль застаецца лідарам гонкі пасля трох этапаў з гандыкапам у 2 хвіліны.

«Дакар–2020» стартаваў 5 студзеня ў Джэда і завершыцца 17 студзеня ў Кідыі. Працягласць маршруту складае каля васьмі тысяч кіламетраў, прычым на спецучасткі прыпадаюць рэкордныя пяць тысяч кіламетраў. У гонцы бяруць удзел больш за 350 экіпажаў з усяго свету, з іх каля 50 спаборнічаюць у класе грузавікоў.

а | Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# Гуана па ўнутрырасійскіх цэнах

**Рабіць цукерку з гаўна нескладана, але пры захаванні як мінімум дзвюх умоваў. Першая — аб'ектыўная: яго павінна быць шмат, і хтосьці на яго павінен мець манаполію. Другая — суб'ектыўная, звязаная з раздзелам лінгвістыкі, які вывучае паходжанне словаў — гэта значыць, з этымалогіяй.**




Першую ўмову каментаваць патрэбы няма, чаго не скажаш пра другую. Калі верыць руска-нямецкаму лінгвісту Максу Фасмеру, у славянскія мовы слова «гаўно» прыйшло з санскрыту — «*gu̯ou-», што азначала «бык», буйная рагатая жывёла, быдла. Далёкага сваяка гэтага слова лёгка распазнаць у старажытнарускім слове «говя́до» (ад праславянскага «*govędo»), «бык». Такім чынам, зыходная сыравіна для цукерак — гэта банальны каравяк, каровіна ляпёшка, і туды ў гады басаногага юнацтва многім беларусам даводзіліся наступаць.

Для масавай вытворчасці цукерак слова з падобнага радаводу малапрыдатнае. Іншая справа, калі каравяк замяніць на памёт марскіх птушак і падабраць для яго прыгожае замежнае слова, напрыклад, «гуана» (ад іспанскага «guano»). Такая замена дазваляе бескарыснае для айчынных шыротаў слова напоўніць карысным, з пункту гледжання сельскай гаспадаркі, зместам. У прыватнасці, значнай колькасцю злучэнняў азоту (да 9%) і фосфару (каля 13%).

У XIX стагоддзі нараджэнню першай сыравіннай звышдзяржавы свет быў абавязаны акіянічнай плыні, якая прыносіла да астравоў Чынча, што належалі Перу, вялікую колькасць рыбы. Рыбай харчаваліся птушкі. Птушкі выраблялі гуана. Такі вось кароткі, але лагічны ланцужок.

За сорак гадоў эксплуатацыі краіна-манапаліст экспартавала 13 мільёнаў тонаў гуана на 13 мільярдаў долараў (сучасных, зразумела). Пра вынік гэтага надзвычай прыбытковага бізнесу добра распавяла расійская журналістка Юлія Латыніна: «На жаль, гэтая неверагодная, фантастычная манаполія так і не дапамагла Перу стаць звышдзяржавай. Усе грошы, якія атрымала Перу, сышлі ў кішэні чыноўнікаў. Яны не павялічылі ў Перу колькасці працоўных месцаў. Яны ніяк не трансфармаваліся ў вынаходніцтвы і тэхналагічныя інавацыі, якімі тады фантанаваў Захад. Дзіўна — але той самы недахоп рабочых рук, які ў Еўропе і ЗША прывёў да імклівага ўкаранення машынаў, у Перу, менавіта дзякуючы манаполіі, прывёў да адраджэння рабства і скрайняй прымітывізацыі працы. Прывезці дармовых рабоў, прычым яшчэ і атрымаўшы на гэта субсідыі ад ураду, ва ўмовах манаполіі было прасцей, чым вынаходзіць экскаватар».

Алгарытм распрацоўкі гуана ў Перу быў неўзабаве паспяхова скарыстаны ў Бразіліі пры здабычы соку гевеі, з якога рабілі каўчук. Невялікая купка абраных квітнела, хоць і нядоўга. Крыж на прыроднай манаполіі, як і ў першым выпадку, паставіла навука, што здолела прапанаваць танныя тэхналогіі вытворчасці сінтэтычнага каўчуку.

### Паветра скончыцца раней за нафту

«Каменны век скончыўся не таму, што скончыліся камяні», — справядліва заўважыў у 2000 годзе міністр нафтавай прамысловасці Саудаўскай Аравіі шэйх Закі Яман. Па гэтай жа прычыне скончыцца і стагоддзе вуглевададародаў. У якім канкрэтна годзе рост спажывання нафты зменіцца зніжэннем і што паслужыць таму прычынай — ветракі або сонечныя батарэі, — сёння сказаць складана. Сярод экспертаў няма адзінага меркавання, але ў тым, што людзі сярэдняга веку да гэтай падзеі дажывуць, сумнявацца не даводзіцца.

Калі ў 1970-х гадах нафта забяспечвала 50% сусветнага попыту на энергарэсурсы, дык сёння — менш за 30%. Нарвегія, лідар па колькасці электрамабіляў (24% усяго аўтапарка), абвясціла план забароны продажу аўтамабіляў без электрарухавіка з 2025 года, а Германія — з 2030-га. Францыя і Вялікабрытанія паставілі сваёй мэтай поўную электрыфікацыю дарожнага транспарту да 2040 года. Спіс будучых непрыемнасцяў для нафтавых каралёў лёгка можна працягнуць.

Самі нафтавыя каралі пра свае невясёлыя перспектывы здагадваюцца, і таму актыўна інвестуюць у «зялёныя тэхналогіі», бо сёння не трэба быць Настрадамусам, каб зразумець, што пры цяперашніх аб'ёмах выкідаў у атмасферу вуглякіслага газу на планеце раней за нафту скончыцца паветра.

Варта адзначыць яшчэ адну лакальную падзею: у бліжэйшыя некалькі гадоў праз натуральныя прычыны — выпрацоўка старых радовішчаў, нізкі ўзровень інвестыцый у геолагаразведцы і адсутнасць сучасных тэхналогій — у Расіі пачнецца падзенне здабычы нафты.

### Не ў каня корм

Чвэрць стагоддзя гісторыі беларускай мадэлі — гэта чвэрць стагоддзя беспераппынных спробаў стаць у адзін шэраг з нафтавымі дзяржавамі, якія атрымліваюць даход не за кошт працы грамадзян, а за кошт прыроднай рэнты. Прывяду цытату з тэксту паслання, з якім адзіны палітык (АП) звярнуўся да народа і дэпутатаў у 2011 годзе: «Мне здаецца, што нафта ў нас усё ж такі ёсць. А калі ёсць нафта, то не можа быць, каб не прарвала газам. Вучонага прэм'ера (*Мясніковіча. — Рэд.*) мы ўзялі, акадэміка. Ён адчувае адказнасць і будзе глядзець, што ў нас там робіцца пад тоўшчай зямлі. Не можа быць такога, каб чалавек шукаў і не знайшоў».

Аказваецца, можа. Нават такі рэдкі сплаў станоўчых якасцяў, зафіксаваны АП у адной асобе (вучоны, акадэмік, які адчувае адказнасць), спадзяванняў не спраўдзіў: газам не прарвала. Што да нафты, то яе здабыча ў Беларусі топчацца на месцы на працягу ўжо многіх гадоў: калі ў 2011 годзе здабылі 1 681 000 тон, то ў 2018 годзе — 1 670 000.

«Вучоным бывае пудзель», — неяк справядліва заўважыў сваім калегам вялікі фізік Леў Ландау. Сябе ж нобелеўскі лаўрэат лічыў навуковым работнікам. Ён не прэтэндаваў на здольнасць глядзець за тым, што ў нас там робіцца пад тоўшчай зямлі. Яго цікавілі працэсы на ўзроўні мікрачасцін, у чым ён быў паспяховы.

З 2011 па 2018 год колькасць беларускіх ландаў, што займаліся навуковымі даследаваннямі і распрацоўкамі, скарацілася на 12,1% (з 31 194 да 27 411 чалавек), а падача заявак на патэнтавыя вынаходніцтвы — на 70,5% (з 1871 да 547)! Пры гэтым фінансаванне навукі са сродкаў рэспубліканскага бюджэту павялічылася з 0,25% да 0,39% ВУП. Корм атрымаўся не ў каня. Вось такая адна з базавых характарыстык беларускай мадэлі!

**Можна колькі заўгодна ганарыцца высокім месцам у глабальным індэксе чалавечага развіцця, фіксаваць гэты подзвіг ў рэзалюцыях, але звязаць гэты індэкс з развіццём эканомікі не атрымаецца**

Можна колькі заўгодна ганарыцца высокім месцам у глабальным індэксе чалавечага развіцця (50-е сярод 189 краін у 2019 годзе), і нават фіксаваць гэты поспех у рэзалюцыях Усебеларускіх народных сходаў, але звязаць на практыцы індэкс чалавечага развіцця з развіццём эканомікі не атрымаецца. Апошняя калі і дэманструе рост, дык выключна за кошт спрыяльнай знешняй кан'юнктуры.

Беларуская мадэль мае патрэбу ў прамых датацыях, а не ў патэнтах. Будуць датацыі — будзе і магчымасць у беларускіх спажыўцоў набываць апошнія мадэлі электронных прыбамбасаў у масавых колькасцях. У сваю чаргу, датацыі дазваляюць беларускім бізнесоўцам імпартаваць абсталяванне, з дапамогай якога толькі і магчымы пераход да новых пакаленняў тэлефаніі. Таму барацьба за захаванне расійскіх датацый была і застаецца краевугольным каменем палітыкі АП.

### Не дзеля карысці, а выключна дзеля роўных умоваў

4 снежня 2019 года на сайце Інстытута сацыялогіі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі ў раздзеле «Аналітыка» быў змешчаны артыкул «Палова беларусаў выступае не за саюзніцкія, а за партнёрскія адносіны з Расіяй». Гэта наш «адказ Керзану» на даследаванне Цэнтра прасторавага аналізу міжнародных адносін МДІМА, што было апублікаванае ў лістападзе.

Паводле даследаванняў маскоўскіх сацыёлагаў, больш за палову беларусаў (57,6%) выказаліся за саюзніцкія адносіны паміж Беларуссю і Расіяй, а каля траціны (31,8%) — за партнёрскія (агулам — амаль 90%).

Расійскай сацыялогіі беларусы супрацьпаставілі сваю: «Паводле даследавання 2019 года, 49,9% грамадзян краіны лічаць, што Беларусь павінна быць незалежнай дзяржавай і будаваць свае адносіны з Расіяй на аснове міжнародных дамоваў (што можна класіфікаваць як «партнёрскія адносіны»). Пры гэтым 36,1% рэспандэнтаў лічаць, што дзве краіны павінны ўзаемадзейнічаць адна з адной па прынцыпе раўнапраўнага саюза са стварэннем наднацыянальных органаў кіравання («саюзніцкія адносіны»), а колькасць прыхільнікаў уваходжання Беларусі ў склад Расіі ў 2019 года склала толькі 7,7%».

Зразумець адрозненні ў выніках апытанняў няпроста, бо прыведзеныя працэнты атрыманыя пры адказах на розныя пытанні. Адзін прыклад: падтрымка саюзніцкіх адносін не раўназначная жаданню ўваходжання ў склад Расіі. Хіба АП выступае супраць Саюзнай дзяржавы? Але дзе і калі ён выказваўся за дэнансацыю саюзніцкай дамовы? Наадварот, ён рэгулярна выступае за яе падтрымку.

Безумоўна, большасць беларусаў хоча жыць у Саюзнай дзяржаве, якая забяспечвала б нам «роўныя ўмовы», г.зн. унутрырасійскія цэны на расійскае гуана, не прэтэндуючы пры гэтым на фарміраванне наддзяржаўных органаў. Але ж у такой дзяржаве мы жывем ужо 20 гадоў.

**Урад Беларусі і Нацыянальны банк сумеснай пастановай зацвердзілі Стратэгію павышэння даверу да нацыянальнай валюты да 2035 года. Улічваючы трывогі апошняга часу з прычыны так званай глыбокай інтэграцыі з Расіяй, гэта пастанова тычыцца не толькі манетарна-эканамічных пытанняў, але выглядае таксама як дакумент з палітычнымі сэнсамі.**




# Рублёвая стратэгія незалежнасці

Павел КІРЫЛАЎ

У Стратэгіі наўпрост адзначаецца, што «нацыянальная валюта — найважнейшы эканамічны інструмент і адзін з галоўных атрыбутаў палітычнага суверэнітэту краіны». Стратэгія скіраваная «на фарміраванне комплексу паслядоўных узаемазвязаных захадаў, якія паспрыяюць павышэнню даверу насельніцтва і арганізацыяў да нацыянальнай валюты». Мэсідж ясны: трывалая нацвалюта — моцны суверэнітэт. Давер да беларускага рубля — умацаванне сярод грамадзян Беларусі каштоўнасцяў незалежнасці.

Разважанняў пра выгады пераходу на расійскі рубель пры моцным сваім павінна паменець нават сярод непатрыятычных абывацеляў. Можа гэты дакумент суняць і алармізм тых, хто турбуецца пагрозамі незалежнасці. А менавіта адзінай саюзнай валюты з эмісійным цэнтрам у Маскве і прагне Крэмль.

Гэтым пытанням, а таксама наднацыянальным органам прысвечаная, па словах расійскага прэм'ер-міністра Дзмітрыя Мядзведзева, самая закрытая — апошняя, 31-я, — з інтэграцыйных дарожных картаў.

Старшыня ж Нацбанку Беларусі Павел Калаур заявіў, што размовы пра пераход на расійскі рубель або нейкую агульную валюту не маюць пад сабой глебы. Болей за тое — яны «вярэдзяць грамадскасць, фарміруюць павышаныя інфляцыйныя і дэвальвацыйныя чаканні».

Лагічная выснова: нават уласна развагі пра пераход на расійскі рубель падрываюць давер да нашага беларускага. Зрэшты, ціску Крамля з непрагназаваным вынікам не касуюць ані супакаяльныя заявы кіраўніцтва Беларусі, ані своечасова прынятая Стратэгія павышэння даверу да нацыянальнай валюты да 2035 года. Цешыць можа толькі тое, што ўрадаўцы і нацбанкаўцы намагаюцца ўзмацняць гэты самы «найважнейшы эканамічны інструмент і адзін з галоўных атрыбутаў палітычнага суверэнітэту краіны».

### Пастка даларызацыі

Цяперашні ж узровень даверу да нацыянальнай валюты ў Стратэгіі канстатаваны як нізкі. Прычыны: «Значная даларызацыя збераджэнняў грашовых сродкаў і абавязальніцтваў у эканоміцы, разлікі паміж рэзідэнтамі ў замежнай валюце на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, прывязка да замежнай валюты пры ўстанаўленні коштаў і тарыфаў, падатковых і арэндных плацяжоў», а таксама ўжо згаданае «захаванне высокіх інфляцыйных і дэвальвацыйных чаканняў».

Натуральна, цягам трох дзесяцігоддзяў праз шматлікія дэвальвацыі і дэнамінацыі давер да беларускага рубля толькі падаў. Паглядзім на апошнія дзесяць гадоў: у 2009 годзе беларускі рубель абясцэніўся да долара на 30%, у 2011 годзе — амаль утрая, у 2015-м — на 55%. Што — давер?! Як зазначаюць ва ўрадзе і Нацбанку, рубель «перастаў выконваць у поўнай меры функцыі грошай»!

Адбылася грунтоўная даларызацыя эканомікі і спажывецкай свядомасці. У 2016 годзе фінансавая даларызацыя дасягнула максімуму з пачатку ўвядзення нацыянальнай валюты. Адваротны працэс ідзе ўсяго толькі некалькі гадоў дзякуючы новым грошам з манетамі — дакладней, стабільнаму іх курсу датычна долара, еўра і расійскага рубля. Але і цяпер даларызацыя шырокай грашовай масы складае 60%. І амаль усе беларусы па-ранейшаму дзівяць тых самых расіян аператыўным міжвалютным канвертарам у сваіх галовах, калі стаяць каля цэннікаў.

Даларызацыя — гэта і страты, і вялікія рызыкі. Паводле падлікаў Нацбанку, штогод праз яе Беларусь губляе 2–3% ад ВУП. А Міжнародны валютны фонд заявіў, што сёння ў Беларусі адна з найбольш даларызаваных эканомік ва Усходняй Еўропе. Напрыклад, сярод рызыкаў даларызацыі МВФ назваў рызыку ліквіднасці: масавае выманне валютных укладаў можа стварыць ціск на валютныя рэзервы.

«Новы Час» вывучыў сумесны даклад МВФ і Нацбанку аб паказчыках даларызацыі ў Беларусі ў параўнанні з іншымі краінамі Еўропы. Даларызацыя дэпазітаў складае прыкладна 65%, такія высокія лічбы толькі ў Сербіі. Ва Украіне — 40%, у Расіі — менш за 30%, у Польшчы — 10%. Між тым, у 2009 годзе палова банкаўскіх укладаў фізасобаў у нашай краіне была ў замежнай валюце. Тады гаварылася — «аж 50%», цяпер — «толькі 50%». Падобная сітуацыя з даларызацыяй крэдытаў — цяпер іх у замежнай валюце амаль 70%, а ў 2009-м было менш за 40%.

### Умацаваць BYN

Якім жа чынам, паводле прынятай днямі адмысловай Стратэгіі, мусіць расці давер да нацыянальнай валюты?

Напрыклад, плануецца штогод зніжаць наш дзяржаўны доўг, які «пераважна сфарміраваны валютнымі абавязальніцтвамі». «Пераважна» — гэта на 97%. У рэальным сектары эканомікі будуць рэалізаваныя захады па аздараўленні дзяржаўных арганізацыяў. Перадусім праз жорсткую фінансавую дысцыпліну датычна эканамічна неэфектыўных прадпрыемстваў. Іх папросту будуць выводзіць з рынка, тобок банкруціць, і перадаваць іх актывы больш плённым суб'ектам гаспадарання.

Пачне пашырыцца сфера ўжытку беларускага рубля. Усе стаўкі падаткаў, арэнднай платы і тарыфаў дзяржаўных арганізацыяў будуць устаноўленыя ў нацыянальнай валюце, як і выплачвацца ў ёй стануць усе дапамогі і субсідыі. У правілы камунікацыі дзяржорганаў укараняць прынцып, паводле якога пры ацэнках аб'ёмаў грашовых сродкаў, звязаных з беларускай эканомікай, сумы павінны будуць указвацца ў сваіх родных грошах.

Забаўна заяўлена пра стрымліванне коштаў. Гэта не гарантуецца, і нават не абяцаецца Нацбанкам і ўрадам. Яны папросту «прызнаюць, што ключавым унёскам грашова-крэдытнай палітыкі ў забеспячэнне ўстойлівага эканамічнага росту будзе з'яўляцца забеспячэнне цэнавай стабільнасці ў краіне».

Дэкларуюцца намаганні Савета міністраў і Нацбанку Беларусі дзеля «фарміравання бізнес-асяроддзя, заснаванага на вяршэнстве закона і правілах рынкавай канкурэнцыі»; «забеспячэння абароны прыватнай уласнасці і забеспячэння роўнасці ўсіх формаў уласнасці»; «укаранення прынцыпаў і паводзінных нормаў, угрунтаваных на адкрытасці і празрыстасці працэсаў прыняцця і рэалізацыі дзяржаўнай эканамічнай палітыкі».

І яшчэ раз што да эканамічнага супрацоўніцтва з Расіяй. Анансаваны разгляд пытання аб змяненнях у пагадненне паміж урадамі Беларусі і Расіі, якія б выключылі магчымасць разлікаў у замежнай валюце на тэрыторыі нашай краіны паміж рэзідэнтамі за прыродны газ.

Выніковай мэтай Стратэгіі, гэта значыць да 2035 года, пазначана набліжэнне долі нацыянальнай валюты ў шырокай грашовай масе да 80%. Дык хай бы словы стратэгаў з кола ўрадоўцаў і банкіраў ды Богу ў вушы! Будзе сумна, калі Стратэгія выкінецца ў сметніцу рукой Крамля ці чарговай унутрыбеларускай, цьху-цьху, дэвальвацыяй. Бо так хочацца давяраць нашаму рублю, так жа?



**Забаўна заяўлена пра стрымліванне коштаў. Гэта не гарантуецца, і нават не абяцаецца. Толькі прызнаецца, што ключавым унёскам у забеспячэнне эканамічнага росту будзе з'яўляцца забеспячэнне цэнавай стабільнасці**

# «Я думала, дзень нараджэння сына будзе самым страшным у маім жыцці»

**Штогод на планеце каля 15 мільёнаў дзяцей нараджаюцца неданошанымі — іншымі словамі, у сярэднім гэта кожнае дзясятае дзіця. Як вядома, усе нованароджаныя дзеці ўразлівыя, але да часу народжаныя — асабліва, а праблема заўчасных родаў застаецца адной з праблемаў, што недаацэньваюцца грамадствам.**

**У Беларусі штогод неданошанымі нараджаюцца каля 4 працэнтаў дзяцей (прыкладна 4–5 тысяч), 90 працэнтаў з якіх урачам удаецца выхадзіць. Адразу пасля нараджэння немаўляты, якія з'яўляюцца на свет раней за вызначаны тэрмін ды маюць крытычна нізкую масу цела і не могуць самастойна дыхаць, пераводзяцца ў рэанімацыю. На дватры месяцы маму такім дзеткам замяняе спецыяльны кювез. Для таго, каб неданошанаё дзіця гарманічна расло, у кювезах неабходна стварацъ спрыяльную атмасферу. Адной з абавязковых умоваў правільнага развіцця з'яўляецца наяўнасць на кювезах спецыяльных чахлоў, якія абараняюць дзіцятка ад яркага святла. На жаль, не ўсе радзільныя дамы з-за высокага кошту могуць закупіць адпаведныя вырабы для сваіх рэанімацый.**

**У 2017 годзе бацькі неданошаных дзяцей стварылі грамадскае аб'яднанне «Рана», якое дапамагае і бацькам і дзеткам адаптавацца ды паўнавартасна жыць.**



Анастасія РУБАНАВА

**Бывае, што ўжо і не чакаеш... Дзесяць гадоў лячэння ад бясплоддзя, няўдалае ЭКА, замерлая цяжарнасць... Але, відаць, хтосьці там, наверсе, сапраўды добра да цябе ставіцца. І вось ужо чатыры з паловай гады мы — бацькі хлопчыка Лёвы. Праўда, шлях да гэтага быў няпросты.**

Парадаксальна, але станоўчы тэст на цяжарнасць выклікаў зусім не радасную рэакцыю. Хутчэй, раздражненне: маўляў, зноў праходзіць праз усё гэта: бальніца, хваляванні, а ў выніку — усё роўна «чыстка», слёзы...

Недзе на чацвёртым месяцы я дазволіла сабе расслабіцца і паверыць, што ўсё будзе добра, пачаць планаваць: ёгу для цяжарных, басейн, сумесныя роды. Але ж ніхто не ведае, чым скончыцца сённяшні дзень. Падчас цяжарнасці пачалі выяўляць розныя рызыкі для мяне і дзіцяці, і гэта штораз прыводзіла ў лякарню.

Ты ідзеш на планавае абследаванне і пасля яго трапляеш у прыёмны пакой — да заўтра чакаць нельга, хто ведае, што можа быць. Першая экстраная шпіталізацыя, другая... А ты лічыш гэтыя тыдні, бо ёсць меркаванне, што да 24 тыдняў шанцы скрайне малыя, а пасля, магчыма, дзіця ўратуюць.

І нельга, нельга хвалявацца! Хвалюешся — і ад таго хвалюешся яшчэ больш, бо нельга. Нельга хвалявацца!

### «Зусім глухі-сляпы інвалід»

На дваццаць шостым тыдні на чарговым УГД упершыню выявілі фетаплацэнтарную недастатковасць — парушэнне функцыі плацэнты. Як вядома, плацэнта ўсталёўвае сувязь паміж плодам і маці. Па сутнасці, ФПН — гэта парушэнне кровавароту ў сістэме маці-плацэнта-дзіця. Арганізм маці можа кампенсаваць ФПН (што доўгі час адбывалася і ў маім выпадку), але недастатковасць можа стаць прычынай адставання ў развіцці плоду, гіпаксіі і смерці дзіцяці.

Пасля агляду ў лякарні доктарка эмацыйна заявіла: «Ну, дзе ж зараз нараджаць, гэты ж зусім глухі-сляпы інвалід будзе!» Абышлося. Але праз месяц мяне зноў шпіталізавалі. І гэтым разам праз некалькі тыдняў з лякарні я ўжо выйшла не цяжарнай.



Чарговая, апошняя, шпіталізацыя была самай страшнай. УГД паказвала, што сітуацыя пагаршаецца. Пры гэтым ты ніяк не можаш паўплываць на яе і чымсьці дапамагчы свайму дзіцяці. Пастаянна прыслухоўваешся, ці варушыцца, бясконца робіш КТГ, каб упэўніцца, што сэрца яшчэ б'ецца.

Штораз пасля УГД збіраўся кансіліум, дзе дактары абмяркоўвалі: кесарыць цяпер ці даць шанцы больш развіцца (але больш шанцаў — больш і рызыкі). Напрыканцы кожнага кансіліуму прапаноўвалі напісаць распіску з адмовай ад аператыўнага ўмяшальніцтва. Плакалася мужу: «Як я магу падпісаць? Я ж не спецыяліст, хіба я магу аб'ектыўна ацаніць рызыку?» На той момант мы паспелі абзавесціся сувязямі ў медычных колах, і «свае людзі» казалі: «Не хвалюйцеся, калі стане сапраўды трэба, вам будуць задаваць пытанні зусім іншым чынам і тонам».

Пасля чарговага УГД загадчык аддзялення выклікаў нас з мужам і сказаў: «Дзіця не развіваецца. Далей цягнуць нельга, мы рызыкуем у любы момант не пачуць сэрцабіцце. Вырашайце, калі — заўтра ці паслязаўтра».

Вечар напярэдадні мы з Глебам доўга гулялі вакол бальніцы. Праз пару соцень метраў скрозь міліцэйскія турнікеты збіраліся мітынгоўцы на (спакойны ў 2015 годзе) Дзень Волі, і ўсё вакол было такім штодзённым, сонечным. Калі б адкруціць час назад, я б усё зрабіла па-іншаму. Напэўна, я б радавалася, што ўжо заўтра ўбачу нашага хлопчыка, а праз нейкі час, магчыма, вазьму яго на рукі, што не трэба будзе больш хвалявацца, як ён там. Я была б спакойнай, бо ведала, што шанец выжывальнасці дзяцей, народжаных на 33–34 тыдні, больш за 90%.

Але ў той вечар мы думалі, хаця стараліся размаўляць пра іншае, што наша дзіця яшчэ зусім не гатовае з'явіцца на гэты свет. Страх за яго перакрываў усё. І я лічыла, што дзень, калі павінен нарадзіцца мой сын, будзе самым страшным у маім жыцці.

### 41 сантыметр, 1700 грамаў

Лёва быў вельмі незадаволены тым, што яго дасталі так хутка. А я не чакала, што ён будзе ў стане крычаць, яго сярдзіты голас радасна расхваляваў. Ён нарадзіўся такі маленькі... 41 сантыметр і 1700 грамаў. Акрамя таго заўчасна народжаныя дзеткі патрабуюць асаблівага дагляду, таму малога адразу забралі ў рэанімацыю, я яго нават не ўбачыла.

У пасляаперацыйнай палаце нас было пяць ці шэсць чалавек. Праз некалькі гадзін пасля аперацыі да мяне прыйшла неанатолаг, каб распавесці пра Лёву. Яго падключылі да апарату штучнай вентыляцыі лёгкіх, бо ў неданошаных гэты орган таксама яшчэ недаразвіты. Але з ім усё добра. Гэта быў адзін з самых шчаслівых момантаў у маім жыцці!

Тады многае для мяне засталося па-за кадрам. Напрыклад, калі Глеб патэлефанаваў у дзень нараджэння ў рэанімацыю, яму распавялі толькі, што малы на ШВЛ — і ўсё, маўляў, тэлефануйце заўтра, сёння новай інфармацыі не будзе. Недахоп інфармацыі — таксама цяжка.

Праз нейкі час да суседкі прыйшоў педыятр. Як аказалася, у яе дачкі сур'ёзныя праблемы з сэрцам, і трэба настройвацца на доўгае лячэнне. Калі тая жанчына ў істэрыцы тэлефанавала мужу, я думала, як усё адносна і няпэўна. І нават беспраблемная цяжарнасць і роды ў тэрмін нічога не гарантуюць.

І хоць хтосьці там, наверсе, добра да нас ставіцца, відаць, ён вырашыў зрабіць усё, каб гэтыя дні мы запомнілі дакладна. Раніцай высветлілася, што ў мяне пасляродавае кровацячэнне, гемаглабін рэзка ўпаў. Дактары вырашылі рабіць пераліванне крыві.

Як жа мне гэтага не хацелася. Ірацыянальна — ад адной думкі, што ў мой арганізм трапіць чыясьці чужая кроў, станавілася агідна. Рацыянальна — згадваліся выпадкі заражэння ўсялякімі

**У нашай картцы таксама былі страшныя дыягназы, і нам казалі, што мінімум да паўтара гадоў мы будзем разбірацца з імі. Пасля выпіскі знайшлі добрага неўролага. З часам большая частка дыягназаў знікла**





непрыемнымі хваробамі, пра якія даводзілася чытаць. Таму пакет з крывёй на ўсялякі выпадак сфатаграфавала і адправіла Глебу.

Неўзабаве пасля пераливання рэзка пачаў часацца твар: вусны, лоб, вочы. Яшчэ паспела спытаць у медсястры: ці так трэба, як мяне званітавала. Падалося, што крывёй. Шалёная тахікардыя, цяжка дыхаць, адчуванне, што вось зараз мяне не стане. Мітусня вакол, крыкі: «Падключычку!»... На каталцы некуды везлі па вуліцы, вачам невыносна ад яркага сонца. У галаве білася думка, што я вельмі патрэбна малому, але ў мяне не было больш сілаў змагацца...

Анафілактычны шок — страшная рэч.

## У рэанімацыі

Пасля таго, як мае вочы зноў сталі расплюшчвацца, а твар ужо не выглядаў як пакусаны восамі, паступова з'явілася прага да жыцця. У першую чаргу гэтаму паспрыялі фотаздымкі Лёвы, якія ўпотай зрабіў Глеб у дзіцячай рэанімацыі, куды яго — з улікам сітуацыі ды насуперак інструкцыям — пусцілі на 5 хвілін. Я не ведала, якімі бываюць неданошаныя дзеці, а перад аперацыяй гугл чамусьці падсоўваў вельмі страшныя карцінкі. Але Лёва выглядаў як звычайнае дзіцянё, быў вельмі мілы і прыгожы.

У рэанімацыі было дзіўна: у адной палаце ляжаць мужчыны і жанчыны разам, ніякіх перагародак і прыватнасці. Спаць немагчыма праз гукі прыбораў, наведвальнікаў не пускаюць, тэлефонамі карыстацца нельга, да таго ж у прыбіральні на ўнітазе не было сідушкі (чаму так і як людзі пасля аперацыі мусяць рабіць свае справы — засталося загадкай, бо хадзіла са сваёй). Зразумела, што трэба было адсюль хутчэй выбірацца.

Па шчырасці, тое, што было ў бальніцы менавіта са мной, вельмі хочацца забыць. Напрыклад, тое, як ужо пасля рэанімацыі высветлілася, што ў матцы засталіся крывяныя «згусткі» (прабачце за натуралізм). І доктарка вырашыла іх выскрабаць уручную. Па жывому, пасля аперацыі. Гэта быў пякельны боль, і я крыкам прасіла спыніцца. За ўсім гэтым моўчкі назіраў натоўп студэнтаў... У выніку зрабілі «чыстку». На той час гемаглабін быў усё яшчэ вельмі нізкі, таму вырашылі зноў пераліць кроў. Яе падбіралі адмыслова пад мяне, дадаткова ачысцілі. Але да самага наркозу не адпускала думка, што штосьці зноў пойдзе не так.

Па-сапраўднаму я ўбачыла Лёву праз пару дзён, калі мяне перавялі ў звычайнае аддзяленне. Божухна, які ён быў маленькі! Як невялікі коцік! На фотаздымках Глеба гэтага не было бачна.

Дзетак у рэанімацыі бальніцы можна было наведваць штодня па паўгадзіны. Пастаяць побач з кювезам, паглядзець праз шкло. Спыталася ў дактароў, ці практыкуюць у нас метад Кенгуру (неданошаным дзеткам вельмі важны фізічны кантакт, скура да скуры, з маці як мага хутчэй пасля нараджэння). На жаль, умовы нашых медыцынскіх установаў гэта не дазвалялі... Магчыма, штосьці з 2015 года змянілася.

Нарэшце Лёву перавезлі ў РНПЦ «Маці і дзіця». Праз некалькі дзён я да яго далучылася. Пашанцавала, бо мне распавядалі пра выпадкі, калі праз адсутнасць месцаў для маці некаторым жанчынам даводзілася чакаць не адзін тыдзень.

## Ні грама назад!

І вось мы разам. Упершыню кармлю сама — з бутэлечкі. Смактаць самастойна — гэта цяжкая праца, неданошаныя дзеткі змогуць яе рабіць недзе праз месяц. У той момант здавалася, што прыгоды скончыліся: я магу дакрануцца да нашага хлопчыка, патрымаць яго «слупком» у кювезе. Ён такі цёплы, родны, самы любімы.

А на наступны дзень мне дазволілі забраць Лёву ў палату — «мацярынскую».

«Мацярынская» — невялікі пакой на дзвюх-трох жанчын. У нашым блоку — тры пакоі. Немаўляты спалі ў адмысловых мабільных ложачках. У Лёвы быў нават з падагрэвам. У заўчасна народжаных дзяцей слабы механізм тэрмарэгуляцыі, таму яны патрабуюць больш цяпла.

Мая суседка, таксама Насця, ляжала адна — забраць дачку ў палату ёй дазволілі яшчэ не хутка, бо дзяўчынка вельмі слабая. Насця некалькі разоў на дзень сцэджвала малако і хадзіла карміць малую на пост.

У суседніх пакоях жылі жанчыны з блізнятамі: у адной — двое хлопчыкаў, у другой — тройня, два хлопчыкі і дзяўчынка. І гэта яе, адпаведна, сёмае, восьмае і дзявятае дзіця! Кажа, вырашылі з мужам нарадзіць апошняга — і спыніцца, а атрымаліся трое.

Штовечар мы прывозілі дзяцей на пост, дзе іх узважвалі, выконвалі медычныя прызначэнні. Вага — гэта важна. Калі дзіця не набірае вагу ці, крый Божа, губляе хоць 5 грамаў — гэта сапраўдная трагедыя для маці і нагода для слёз.

Акрамя хвалявання за здароўе і стан дзіцяці цяжка было пераносіць ізаляцыю. Канешне, можна было выскачыць на некалькі хвілінаў у фае да Глеба ці мамы, пакінуўшы малога на суседку ці на пасту. І сучасныя сродкі камунікацыі дазваляюць быць на сувязі анлайн. І ўсё ж большую частку часу ў бальніцы заставалася сам-насам са сваімі думкамі і перажываннямі. І прафесійнай псіхалагічнай дапамогі тады, па шчырасці, бракавала.



Але, з іншага боку, «на волі», заставаліся людзі, якія таксама перажывалі гэтую сітуацыю. Пісалі, тэлефанавалі. Увесь гэты час Глеб разрываўся паміж мною (намі) у бальніцы, працай, хворай маці і незавершаным рамонтам. Я шчыра не ўяўляю, як у яго хапала сіл і часу на ўсё гэта. Калі я трапіла ў рэанімацыю, менавіта Глеб дамогся, каб мой стан пачалі кантраляваць. Думаю, увесь цяжар хваляванняў ён падзяліў са мной напоўніцу. Вельмі дапамагала мая мама, апроч іншага яна рабіла ўсё, каб у бальніцы мне было як мага камфортней, штодня прывозіла хатнія смакоцці. А былая калега, калі даведалася, павіншавала паштоўкай і перадала цэлую кіпу дзіцячых рэчаў. Гэта было нечакана і кранальна.

## Страшныя дыягназы

У бальніцы кожнае дзіця пільна абследуюць. І амаль у кожнага выяўляюць адхіленні, уласцівыя неданошаным дзецям. Кісты ў мозгу, праблемы з унутранымі органамі, рэтынапатыя.

У нашай картцы таксама былі страшныя дыягназы, і нам казалі, што мінімум да паўтара гадоў мы будзем разбірацца з імі. Пасля выпіскі знайшлі добрага неўролага. З часам большая частка дыягназаў знікла. У чатыры месяцы на чарговым прыёме ў педыятра мы пачулі, што Лёва трапляе ў ніжнюю мяжу нормы фізічнага развіцця. У год ён адштурхнуўся ад сцяны і пайшоў. У чатыры з паловай — Лёва разумны, энергічны хлопчык з багатай фантазіяй, які мала чым адрозніваецца ад аднагодкаў, ну хіба больш кампактны. Пэўна, нам пашанцавала. Дый Лёва з першых хвілін жыцця паказаў сябе сапраўдным змагаром — усё ж мы далі яму моцнае імя.

Так, ён ходзіць у лагапедычную групу, ёсць пэўныя неўралагічныя і псіхалагічныя пытанні. Але ён ёсць — і здаровы, наколькі могуць быць здаровымі дзеці ў Беларусі. Здаецца, усё скончана? Некалькі месяцаў таму на прыёме ў дзіцячага псіхолага мы з Глебам даведаліся, што над намі дагэтуль пануе страх страты дзіцяці. А значыць, гэтая гісторыя для нас яшчэ працягваецца.

**Фота з сямейнага архіву**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ГЕРМАНІЯ. Пятніца за аўтамабіль

Нямецкія аўтааматары вырашылі адказаць на акцыю «Пятніца за клімат». Яе праводзяць экалагічныя арганізацыі, што патрабуюць сярод іншага ад аўтамабілістаў адмовіцца ад традыцыйных рухавікоў. Пачынаючы з 3 студзеня ў мясцовым інтэрнэце набірае папулярнасць група «Fridays for Hubraum», якая выступае супраць зменаў у гэтай сферы. Як кажа адзін з лідараў групы Ёханес Бухнер, «глабальная мэта ініцыятывы — супрацьпаставіць рацыянальныя тэзісы істэрыцы наконт клімату і сфарміраваць экалагічную палітыку». Такая палітыка, паводле Бухнера, «не руйнуе працоўныя месцы, захоўвае прыродныя рэсурсы, разлічвае на ўстойлівыя навуковыя даследаванні і не разбурае, але ўмацоўвае Германію як месца размяшчэння бізнесу». Цікавыя меркаванні Бухнера і яго сяброў наконт таго, што аўтамабіль з'яўляецца сімваламі індывідуальнай свабоды, якой, адпаведна, пагражаюць забабоны экалагаў. Цяпер 560 тысяч удзельнікаў групы «Fridays for Hubraum» рыхтуюць першую публічную акцыю. Экологі, натуральна, пакляліся тую акцыю сарваць.

**Паводле нямецкай прэсы**

### КАЗАХСТАН. Як стварыць апазіцыю?

Напярэдадні парламенцкіх выбараў у Казахстане працягваюцца спробы стварыць віртуальную апазіцыю кіруючаму рэжыму. Выглядае, што ўлады дзеля надання гэтай псеўдаапазіцыі радыкальнага іміджу гатовыя на самыя незвычайныя крокі. Днямі Міністэрства юстыцыі зарэгістравала арганізацыйны камітэт па стварэнні Дэмакратычнай партыі, заснавальнікі якой вядомыя як цалкам палітычна лаяльныя грамадзяне. Фішка ў тым, што чыноўнікі далі дабро на стварэнне структуры, лідары якой гучна заяўляюць мэтамі сваёй арганізацыі «звяржэнне ўлады» і «знішчэнне кіруючай партыі краіны "Нур Атан"». Нагадаем, гаворка ідзе пра дзяржаву, дзе можна атрымаць позву ў суд за лайк у сацыяльных сетках. Зыходзячы з гэтага можна зрабіць выснову, што інстытут выбараў у Казахстане знаходзіцца ў глыбокім крызісе. Насельніцтва настолькі расчараваліся ў выбарах, што для адраджэння інтарэсу да іх даводзіцца легалізаваць структуры з амаль тэрарыстычнымі лозунгамі. І ўсё гэта дзеля «абрання» на будучых «выбарах» новых лялечных «дэпутатаў» у лялечны «парламент».

**Паводле казахскай прэсы**

### УКРАІНА. Асёл народа

Ва Украіне знялі з пракату мультфільм «Кароль-асёл» (паўкраінску «Король-віслюк»), што тлумачыцца апанентамі цяперашняга прэзідэнта Уладзіміра Зяленскага як палітычная цэнзура. Па сюжэце галоўны герой, асёл Мангу, ідзе ў прэзідэнты краіны. Выбаршчыкі падтрымліваюць асла-кандыдата, кіруючыся прынцыпам: «Нам патрэбны народны кандыдат, нават калі гэта будзе асёл». У выніку Мангу становіцца лідарам дзяржавы, хоць не ведае правілаў этыкету і не разбіраецца ў палітыцы, што і стварае шмат камічных сітуацый. Прыхільнікі экс-прэзідэнта Пятра Парашэнкі лічаць мульцік «працягам» серыялу «Слуга народа» і пародыяй на Зяленскага. Пра гэта, нібыта, сведчыць фраза, якую прамаўляе на экране Кароль-асёл: **«Дякую, дуже дякую»**. Яе нярэдка выкарыстоўвае Зяленскі. Гэтая акалічнасць, нібыта, і прымусіла ўлады прыняць рашэнне зняць мультфільм з пракату. У камандзе Зяленскага, у сваю чаргу, версію пра цэнзуру абвяргаюць ды спасылаюцца на пракатчыкаў. Тыя пацвярджаюць, што мульцік знік з рэпертуару кінатэатраў, паколькі напросту выйшаў яго пракатны тэрмін. Узгадваюць таксама, што былы прэзідэнт Парашэнка казаў **«дякую»** не менш за Зяленскага, з-за чаго яго нават празвалі **«дякула»**.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. Эканамічныя ўнітазы

Статыстыка, як кажуць, ведае ўсё. У тым ліку такую незвычайную рэч, як колькасць часу, якую чалавек праводзіць седзячы на ўнітазе. Аказваецца, на працягу ўсяго жыцця гэта аж 416 сутак. Пры гэтым хадзіць у прыбіральню людзям даводзіцца і падчас працы, што даўно турбуе частку бізнесоўцаў. У тым ліку брытанскіх, якія падлічылі: штогод праз паходы сваіх супрацоўнікаў у клазеты яны губляюць каля 4 мільярдаў фунтаў. На першы погляд, з гэтым нічога зрабіць нельга, паколькі фізіялогія чалавека не падпарадкоўваецца бізнес-графіку. Аднак выйсце знайшлі. Брытанская асацыяцыя прыбіральняў (BTA) распрацавала новую мадэль стандартнай прыбіральні для офісаў. Сутнасць вынаходніцтва ў тым, каб рабіць унітазы з нахілам 13 градусаў уніз. У выніку чалавек вымушаны напружваць мышцы ног, каб трывала сядзець на месцы. Гэта выклікае непрыемныя пачуцці, што прымушае паскорыць час знаходжання ў кабінцы. Застаецца пачакаць, ці будзе карыстацца попытам прадукт BTA. Увогуле, каштуе эканамічны ўнітаз пакуль вельмі дорага — да 500 долараў.

**Паводле брытанскай прэсы**

# Спачатку быў Маа

Алег НОВІКАЎ

**Ва ўсім свеце мусульмане, хрысціяне і проста тыя, хто цікавіцца рэлігійнай праблематыкай, актыўна абмяркоўваюць навіну з Пекіна, дзе вырашылі перапісаць Біблію і Каран.**



Фота www.pravoslavie.fm

Хаця пра гэта стала вядома толькі днямі, само рашэнне датуецца яшчэ лістападам мінулага года. Менавіта тады на пасяджэнні Камітэта па нацыянальных і рэлігійных пытаннях была агучаная адпаведная ініцыятыва. Пазней яе дапрацавалі на пасяджэнні кітайскага парламента, які заклікаў даць «усебаковую ацэнку існуючай рэлігійнай класічнай спадчыне, звярнуўшы асаблівую ўвагу на кантэнт, які не адпавядае сучаснаму прагрэсу».

Паводле прынятай пастановы, будучыя новыя рэдакцыі класічных тэкстаў «не павінны ўтрымліваць зместаў, якія супярэчаць перакананням кітайскай камуністычнай партыі». У параграфы, якія цэнзары палічаць няправільнымі, будуць унесены папраўкі альбо іх чакае новы пераклад з адаптацыяй пад «ключавыя каштоўнасці сацыялізму» і «выклікі нашага часу». Такая рэвізія, паводле аўтараў ідэі, дазволіць прадухіліць пашырэнне «экстрэмісцкіх думак» і «ерэтычных ідэяў, якія разбураюць дзяржаву».

Хаця непасрэдна згадак пра Біблію або Каран у тэксце пастановы не прысутнічае, усеназіральнікі лічаць, што гаворка менавіта пра гэтыя рэлігійныя літаратурныя помнікі. Менавіта хрысціяне (а дакладней, каталікі) і мусульмане-уйгуры — цюркскі этнас на Захадзе Кітаю, — стала выклікаюць у чыноўнікаў КНР галаўны боль.

Асабліва ў КНР заклапочаныя вырашэннем уйгурскага пытання. Паводле заходніх медыя і экспертаў ААН, у Кітаі існуе цэлая сістэма канцэнтрацыйных установаў, дзе прыкладна мільён уйгураў праходзіць курс «перавыхавання». Праўда, сутнасць перавыхавання дастаткова незразумелая. Калі верыць успамінам экс-вязняў тых лагераў, перавыхаванне заключаецца ў тым, каб парушаць нормы ісламу — есці свініну або жлукціць гарэлку. Магчыма, такім чынам кітайцы намагаюцца зламаць ісламскую ідэнтычнасць уйгураў. Кіраўніцтва КНР, дарэчы, не так даўно вызнала наяўнасць такога кшталту цэнтраў, аднак сцвярджае, што гаворка ідзе выключна пра моўныя курсы і адукацыйныя класы павышэння кваліфікацыі.

Лічыцца, што планы падкарэктаваць той жа Каран з'яўляюцца часткай плану па прымусовай карэктоўцы мусульманскай свядомасці. Адсюль крытыка на адрас Пекіну з боку праваабаронцаў. «[Цэнзурныя планы] паказваюць, наколькі маніпулятыўнай з'яўляецца палітыка Кітая, які крывадушна дазваляе некаторым рэлігіям дзейнічаць у Кітаі, але толькі ў адпаведнасці з ухваленым адміністрацыйным канонам», — кажа ў інтэрв'ю брытанскаму Daily Mail прадстаўнік арганізацыі Amnesty International.

Той жа праваабаронца дапускае, што ва ўмовах цэнзуры і інфармацыйнай ізаляцыі Кітая новыя версіі рэлігійных тэкстаў могуць стаць сапраўды дактрынальнымі для часткі кітайскіх вернікаў. На думку некаторых, спроба навязвання кітайскім хрысціянам і мусульманам новых сакральных тэкстаў можа мець самыя непрадказальныя наступствы — у тым ліку для палітычнай стабільнасці, дзеля якой Пекін і запускае рэформу.

**Як ні парадаксальна, падыходы кітайскіх камуністаў спадабаліся еўрапейскім правым. Яны спадзяюцца, што напрацоўкі ў Паднябеснай могуць дапамагчы «белай Еўропе» абараніць ідэнтычнасць ад «ісламскай пагрозы»**

Валюнтарызмам Пекіну вучоныя-рэлігіязнаўцы, мякка кажучы, шакаваныя. Як піша адзін з тэолагаў, «крокі кітайцаў паказваюць, што камуністычны рэжым не разумее канцэпцыі і пазіцыі адкрыцця ісціны ў рэлігіі. У рэлігіі ісціна — гэта Слова Божае, што ўтрымлівае каштоўнасці і правілы, якія мусяць выконваць людзі, а ўсе законы, прынятыя людзьмі, павінны не супярэчыць ім і, адпаведна, не прыдумляцца».

Дарэчы, рэакцыі на планы Кітая з боку рэлігійных ісламскіх і хрысціянскіх цэнтраў пакуль няма. Таму даводзіцца задавальняцца асабістымі думкамі святароў або публіцыстаў. Відавочна, што іх пазіцыя вельмі адмоўная.

Затое, як ні парадаксальна, падыходы кітайскіх камуністаў да ісламу спадабаліся еўрапейскім правым палітыкам. Яны спадзяюцца, што ксенафобскія ісламафобскія напрацоўкі ў Паднябеснай у будучыні могуць дапамагчы «белай Еўропе» абараніць сваю ідэнтычнасць ад «ісламскай пагрозы».

Не ўтрымаліся ад каментароў наконт навінаў з КНР і аматары жартаў і прыколаў. Яны фантануюць ідэямі, як можа выглядаць тая ж Біблія, напісаная згодна з запаветамі кітайскіх камуністаў. «Напэўна, тая Біблія будзе пачынацца фразай: «Спачатку быў таварыш Маа», — жартуе адзін з брытанскіх журналістаў.

Ёсць і палярны пункт гледжання. Прапануецца глядзець на перспектывы рэформы сакральных тэкстаў у кантэксце ідэалагічнай эвалюцыі кітайскага кіраўніцтва. Насуперак сваім публічным камуністычным лозунгам, эліта КНР, хутчэй, вызнае капіталістычныя каштоўнасці. Таму ніякай камуністычнай Бібліі чакаць не варта. Усё абмяжуецца агульнымі фармальнымі папраўкамі.

Нарэшце, цікава, што на Захадзе некаторыя левыя і ліберальныя каментатары, наадварот, віталі праект Пекіну. На іх думку, праблема карэкціроўкі архаічных рэлігійных тэкстаў, якія ўтрымліваюць шмат ксенафобскіх фрагментаў, — гэта толькі пытанне часу. Праўда, яны пагаджаюцца, што для гэтага патрэбная больш шырокая дыскусія, чым кола сяброў камітэту кітайскай Кампартыі, — пажадана з удзелам усіх вядучых цэркваў, навукоўцаў і грамадскасці.



Фота www.medialeaks.ru

# Эфект Ведзьмака

Алег НОВІКАЎ

**Вельмі рэдка культурныя прадукты Усходняй Еўропы становяцца глабальным феноменам. Так пашанцавала польскаму літаратару Анджэю Сапкоўскаму, які працуе ў жанры фэнтэзі.**

Як вядома, восенню лаўрэатам літаратурнага Нобеля стала Вольга Такарчук. Парадаксальна, аднак шматлікія яе суайчыннікі былі не ў захапленні ад рашэння шведскіх акадэмікаў. У шэрагах кансерватараў Такарчук, хутчэй, вядомая актыўнай пазіцыяй у абарону правоў ЛГБТ. Адсюль — каскад канспіратыўных тэорый, што намінацыю пісьменніцы замовілі нейкія ліберальныя цэнтры для дыскрэдытацыі цяперашняга польскага ўрада, які стала абвінавачваюць у гамафобіі. Мелі месца нават публічныя акцыі пратэсту супраць лаўрэаткі.

А вось трыумф адаптацыі твораў Анджэя Сапкоўскага на канале Netflix падобных рэцыдываў не выклікаў. Мяркуючы па прэсе, палякі, нягледзячы на розныя палітычныя забабоны, ганарацца поспехам пісьменніка. Гэта не дзіўна, паколькі героямі яго твораў з'яўляюцца эльфы, гномы, чараўнікі, якіх цяжка ўпісаць у сучасны палітычны працэс.

Зрэшты, знайшліся і такія, хто палітызаваў нават казачных істотаў. Гаворка пра некаторых правых палітыкаў, якім не спадабалася прысутнасць на экране чарнаскурых статыстаў. Афра-эльфы і афра-гномы, як лічаць яны, супярэчаць рэаліям сярэднявечнай Польшчы, якая выяўленая ў кнігах Сапкоўскага.

Ліберальная прэса, у сваю чаргу, намагаецца давесці, што ў серыяле выяўленыя жыхары неіснуючага кантынента, дзе побач з людзьмі жывуць нейкія фантастычныя істоты. «Гэты край — не сярэднявечная Польшча ці нават Еўропа.

Гэты край можа мець некаторыя рысы, агульныя з рэчаіснасцю, якую мы ведаем, але тое ж самае можна сказаць і пра кожны літаратурны ўяўны свет», — адзначае інтэрнэт-выданне Spidersweb.

Сваё першае апавяданне пра ведзьмакоў Сапкоўскі апублікаваў аж у 1986 годзе, за некалькі гадоў да падзення камуністычнага рэжыму ў Польшчы. Паступова пад яго пяром паўстаў цыкл пра паляўнічага на монстраў ведзьмака Геральта, які шукае сваю зніклую прыёмную дачку ў выдуманым свеце, што нагадвае Усходнюю Еўропу часоў позняга Сярэднявечча. У гэтым свеце побач з людзьмі жывуць рознага кшталту чароўныя істоты і пачвары.

**Серыял «Вядзьмак» дзесьці адыходзіць ад арыгінала, але вынік апынуўся фенаменальным. Па слядах першага сезона, які прайшоў у снежні, Сапкоўскі стаў самым папулярным пісьменнікам на Amazon**

Папулярнасць твораў Сапкоўскага выйшла за межы радзімы пасля таго, як кампанія CD Projekt Red на пачатку нулявых адаптавала іх сюжэты да відэагульняў. Раней былі спробы экранізацыі сагі намаганнямі польскага кінематографа, якія цяжка назваць удалымі з-за сціплых рэсурсаў.

Пану Анджэю давялося чакаць, калі за экранізацыю яго творчасці ўзяўся канал Netflix. Няхай серыял «Вядзьмак» дзесьці адыходзіць ад арыгінала, але вынік апынуўся фенаменальным. Дастаткова сказаць, што па слядах першага сезона, які дэманстраваўся ў снежні, Сапкоўскі стаў самым папулярным пісьменнікам на Amazon.

Ёсць, вядома, у серыяла і крытыкі. Як правіла, ім не падабаецца занадта дынамічны сюжэт, што, нібыта, ратуе выключна гульня акцёра Генры Кавіла і чорны гумар. Кажуць таксама, што «Вядзьмак» эксплуатуе поспех «Гульні тронаў». Нездарма пасля поспеху «Ведзьмака» стала вядома пра намер канкурэнтаў Netflix хутка зрабіць нешта аналагічнае. Вядома, што канал HBO, які здымаў «Гульні», запускае серыю спін-офаў «Гульняў тронаў». У сваю чаргу, Amazon ужо анансаваў інвестыцыю памерам у мільярд долараў для здымкаў пяці сезонаў серыялу па матывах «Уладара пярсцёнкаў» Толкіена.

Аднак наступствам поспеху «Ведзьмака» стаў не толькі новы раўнд вайны за рынак фэнтэзі. Напэўна, упершыню ў свеце сталі казаць пра ўсходнееўрапейскі накірунак у гэтым жанры. Як вядома, напэўна яшчэ з часоў Толкіена прататыпам выдуманых чароўных краін у літаратуры фэнтэзі была сярэднявечная Заходняя Еўропа. Цяпер упершыню ў свеце зацікавіліся нашым рэгіёнам, яго гісторыяй і казачным фальклорам шматлікіх народаў, якія жылі тут у часы Сярэднявечча.

«Дэкарацыі серыялу "Вядзьмак" (і складаны канфлікт, які раздзірае яго сюжэт на часткі) нагадвае фундаментальную гісторыю Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Гэта частка Еўропы, якая цягнецца ад усходняй мяжы Германіі да ўнутранай часткі Расіі, была арэнай міграцыі і ўварванняў з Захаду, Блізкага Усходу і Азіі, хоць гісторыя гэтага раёна з'яўляецца няпоўнай і смутнай. Да канца X стагоддзя ў гэтым раёне знаходзіліся славяне, гуны, цюркамоўны (але таксама шматэтнічны і шматканфесійны) Хазарскі каганат, германскія франкі, мадзьяры, Кіеўская Русь і іншыя», — з захапленнем піша выданне Polygon у рэцэнзіі на серыял Netflix. І такіх публікацый вельмі шмат.

Застаецца спадзявацца, што нехта з тых беларусаў, хто займаецца фэнтэзі, скарыстаецца незвычайным кан'юнктурным попытам у свеце на нашых ведзьмакоў і іншых прадстаўнікоў нячыстай сілы.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ



### Рустам Ішмухаметаў

Менавіта з ініцыятывы віцэ-спікера парламента Башкірыі ў аўтаноміі прайшоў незвычайны для навагодніх святаў эксперымент — абвешчаная забарона рознічнага продажу алкагольнай прадукцыі з 29 па 3 студзеня. А 4, 5, 6 студзеня алкаголь можна было набыць толькі да дзвюх гадзін дня.

«Мы ўводзім абмежаванні, бо хочам абараніць нашых грамадзян ад злоўжывання спіртнымі напоямі падчас працяглых навагодніх вакацый», — паведаміў Ішмухаметаў, калі ў канцы снежня пралабіяваў свой законапраект. Напэўна, мера апраўданая, калі ўлічыць, што ў Башкірыі штогод з 1 па 3 студзеня асноўная прычына смерці — атручванне алкаголем. А з 5 па 7 студзеня ў рэгіёне фіксуецца максімальная колькасць алкагольных псіхозаў, якія вядуць да росту крымiналу.

Першае цялятка — шчанятка. Быў зарэгістраваны толькі адзіны выпадак канфлікту, калі нейкі пакупнік абяцаў падарваць магазін, калі яму не прададуць гарэлку. Аднак у комплексе рэакцыя насельніцтва на «сухі закон» супярэчлівая. У сетках пішуць, што эксперымент аказаўся адносна паспяховым толькі таму, што законапраект Ішмухаметава быў прыняты 30 снежня, і народ напросту не паспеў зарыентавацца. Падчас наступнага Новага года, маўляў, праблему дэфіцыту алкаголю пачнуць абыходзіць за кошт папярэдніх запасаў.

### Вернер Коглер



На партыйным з'ездзе лідар аўстрыйскіх «Зялёных» дамогся ад аднапартыйцаў згоды на ўваходжанне партыі ў кааліцыю з кансерватыўнай «Народнай партыяй» (ÖVP) Себасцьяна Курца.

Нічога падобнага ў гісторыі зялёнага руху ніколі не было. Выпадкі супрацоўніцтва «Зялёных» і кансерватараў калі і мелі месца, то толькі на рэгіянальным узроўні. Кансерватары як партыя клерыкалаў і абаронцаў буйнога бізнесу традыцыйна лічыліся ідэйнымі праціўнікамі эколагаў. Таму не дзіўна, што аўстрыйскі казус выклікаў агульнаеўрапейскі рэзананс. Ёсць рызыка, што аўстрыйскі прэцэдэнт дасць падставу ўспрымаць эколагаў як беспрынцыпную палітсілу, а гэта можа кепска адбіцца на іх рэйтынгах.

Асабліва абураюцца нямецкія «Зялёныя», якія бачаць сябе як альтэрнатыву Меркель. Гэта дае ім шанец стаць кіраўнікамі наступнага ўраду Германіі. Кіраўніцтва нямецкіх «Зялёных» ужо раскрытыкавала аўстрыйскіх калегаў, паабяцаўшы не дапусціць падобнага сцэнару ў ФРГ. У сваю чаргу, аўстрыйскія эколагі сцвярджаюць, што ўзгодненая з Курцам праграма ўраду выглядае даволі прагрэсіўна, і ў прыватнасці дапаможа абараніць правы імігрантаў. Варта таксама адзначыць, што за ўваход у кааліцыю з кансерватарамі прагаласавалі каля 90 працэнтаў дэлегатаў.

### Марк Рутэ



Да гэтага часу многія не могуць зразумець, навошта прэм'ер Нідэрландаў правёў рэформу, паводле якой з 1 студзеня Нідэрланды афіцыйна адмовіліся ад назвы «Галандыя». Мясцовыя ўлады, універсітэты і амбасады будуць выкарыстоўваць толькі афіцыйную назву краіны — Нідэрланды.

Увогуле, назва «Галандыя» паходзіць ад назвы дзвюх гістарычна найбольш развітых правінцый краіны. Хаця і раней больш дакладным з'яўлялася ўжыванне назвы «Нідэрланды» — бо краіна складаецца з 12 правінцый і некалькіх выспаў Карыбскага басейна. Доўгі час сітуацыя суіснавання дзвюх назваў усіх задавальняла. Аднак у кастрычніку ад назвы «Галандыя» вырашылі адмовіцца — і завяршылі перайменаванне якраз да пачатку новага года. Дарэчы, рэформа абышлася ў 200 тысяч еўра.

Калі верыць міністрам кабінету Марка Рутэ, грошы не былі выдаткаваныя марна. Адмова ад «Галандыі», маўляў, дапаможа сфарміраваць вобраз дзяржавы як «распрацоўніка перадавых тэхналогій для вырашэння глабальных праблемаў». Старая назва гэтаму перашкаджала, бо выклікала асацыяцыі з галандскімі млынамі, сырамі, лёгкімі наркотыкамі і «кварталам чырвоных ліхтароў» у Амстэрдаме.

Пакуль амбіцыі рэфарматараў выклікаюць скепсіс. У тым ліку таму, што мясцовыя турфірмы працягваюць навязваць стары імідж краіны. Застаецца дадаць, што за спробай змены іміджу Нідэрландаў уважліва сочаць у Кіеве. Улады Украіны ўжо некалькі гадоў праводзяць кампанію за тое, каб у свеце пісалі Kyiv замест Kiev, што павінна надаць сталіцы краіны еўрапейскі вобраз.

# Дванаццаць пастак

Андрэй РАСІНСКІ

**Па тэлебачанні, у сеціве, на старонках газет, у канцылярыі і нават у рэкамендацыях для журналістаў усцяж сустракаецца навамоўе — таталітарны жаргон, што адбірае свабоду. Навамоўе ўтаймоўвае вашы думкі з дапамогаю некалькіх пастак.**




Шэсцьдзясят гадоў таму слова навамоўе (newspeak) ужыў англійскі пісьменнік Джордж Оруэл у сваім рамане «1984». У яго антыўтопіі ўсёўладная тыранія прыдумала навамоўе, каб праз яго ўнемагчыміць зняволеным нават думку пра свабоду. Оруэл адштурхоўваўся ад вядомай яму ваеннай прапаганды і, што важна, ад нацысцкай і савецкай рыторыкі. У дадатку да раману пісьменнік сцісла падаў правілы навамоўя.

У 1980-я гады ідэямі Оруэла скарысталіся польскія лінгвісты, каб уважліва прааналізаваць мову камуністычнага панавання. У той жа час французскія навукоўцы казалі пра савецкую «драўляную мову», а расійскія аўтары асцярожна скардзіліся на канцылярыт. Усё гэта было рознымі назвамі камуністычнага навамоўя. Якія ж яго рысы?

### Першая: чорна-белы свет

У навамоўі ўсе людзі, з'явы і рэчы прыпісаныя альбо да свайго, станоўчага свету — альбо да чужога, варожага лагеру. Нейтральнасць расцэньваецца як зло (тут і далей асаблівасці правапісу захаваныя):

«З поўным правам мы можам сказаць, што Беларусь уступіла ў эпоху росквіту (таржэства) нацыянальнай па форме і соцыялістычнай па зместу культуры. Зусім іншы малюнак мы наглядаем у Заходняй Беларусі, якая знаходзіцца пад ярмом польскіх памешчыкаў і капіталістаў» (15 з'езд КПБ, 1934).

«Творчасьць Таўбіна, яго актыўнае ігнараваньне нашай рэчаіснасьці, захапленьне буржуазнай гнілой і прадажніцкай культурай, замыканьне ў кола сваіх псыхалёгічна-хворых успрыйманьняў, рамантычнае эстэцтва, — усё гэта вынікае з нянавісьці яго, Таўбіна, да дыктатуры пралетарыяту, да нашага сацыялістычнага будаўніцтва, а сама творчасьць Таўбіна служыць сродкам змаганьня рэштак капіталістычных элемэнтаў у нашай краіне супроць дыктатуры пралетарыяту» (Алесь Кучар, Вялікая перабудова, Менск, 1933).

Гэты чорна-белы раскол нікуды не падзеўся. Падчас прэзідэнцкіх выбараў 2001 года апазіцыйныя ўлёткі заклікалі выбіраць паміж ушчэнт здэградаваным светам лукашызму — і шчаслівай Еўропай, а праз 13 гадоў такую ж тактыку ўжылі расійскія прапагандысты, толькі яны ўжо ставілі перад выбарам: гейская Еўропа з фашыстамі — ці пераможны «руский мир». Навамоўе адмятае кампраміс і шматзначнасць.

### Другая: пошукі ворагаў

Падонкі чалавечага роду разам з ворагамі народа, белагвардзейскія пігмеі і белагвардзейскія казяўкі, нікчэмныя лакеі фашыстаў, трацкісцка-бухарынскія ізвергі — вось толькі некаторыя выбраныя ворагі, пералічаныя ў сталінскай Гісторыі УсеКП(б). А цяпер давайце паслухаем Васіля Шаранговіча — тагачаснага беларускага кіраўніка, які кажа пра разгром рэштак нацыяналістычнай контррэвалюцыі:

«Распазнаваць ворага, тым больш замаскіраванага ў нацыянальны касцюм — адна з важнейшых задач бальшэвікоў Беларусі [...] Зусім бясспрэчна, што мы ўсю гэтую сволач, гэтых шалёных сабак выкрыем і сатром у парашок, як-бы яны ні маскіраваліся, у якую нару яны ні хаваліся-б.

Мы павінны яшчэ раз на нашым з'ездзе заявіць, што ўсім гэтым гадам, здраднікам, мярзаўцам нічога другога быць не павінна быць, як знішчэнне і смерць (16 з'езд КПБ, 1937).

«Шалёныя сабакі», «гады», «мярзаўцы» — гэтыя словы наўпрост забівалі, зрэшты, неўзабаве расстралялі і самога Шаранговіча, як польска-японскага шпега і здрадніка.

У навамоўі штораз вынаходзяцца новыя ворагі: бязродныя касмапаліты і сіяністы прыйшлі на змену нацыянал-фашыстам, а стылягі, хіпі і безыдэйныя маладыя людзі, якія пляшуць пад дудку Захаду, пацяснілі падзабытых памешчыкаў і капіталістаў. У 1990 годзе, на 31 з'ездзе КПБ, першы сакратар Яфрэм Сакалоў скардзіўся:

«Нас не можа не хваляваць, што ў апошні час пачасціліся спробы выкарыстаць у адкрыта палітычных мэтах студэнцтва. Экстрэмісцкія сілы адкрыта заклікаюць студэнтаў да паўтарэння «ўкраінскіх і ўсходнееўрапейскіх варыянтаў», узмацняюць націск на навучальныя ўстановы пад выглядам іх дэідэалагізацыі і дэпалітызацыі».

Тут у якасці ворагаў выступаюць нейкія экстрэмісцкія сілы. Але, якія б ворагі ні былі, яны заўжды — аснова для навамоўя, нават калі гутарка ідзе пра камуністычны рай і ягоных павадыроў. Рай атočаны ворагамі, і навамоўе ўсяляк заахвочвае спісваць крыўды на ворагаў, каб забываць пра сябе.

«Як вы пасмелі? Вы скралі маё дзяцінства!» (ААН, 2019)

«А бандэраўцы на Украіне»... (расійская тэлевізія з 2013)

«Адмарозкі, мразі, вашывыя блыхі»... (Беларусь, ад 1994)

### Канец свету адбываецца, царства вызвалення надышло – трэцяя пастка

Навамоўе экзальтаванае: яно гаворыць пра гатовы рай для сваіх і пекла для чужых, пра экстаз і празмернасць, пра бой наш астатні за працоўны народ (гэта «Інтэрнацыянал» — галоўная камуністычная песня).

«Калгасы перамаглі канчаткова і беспаваротна [...] Усе гэтыя поспехі і, перш за ўсё, перамога пяцігодкі канчаткова дэмаралізавалі і разбілі ўпрах усе і ўсякія антыленінскія групоўкі» (Сталін, 1934).

«Канчатковая і беспаваротная перамога соцыялізма ў нашай краіне выбіла глебу з-пад ног нацыяналістаў [...] КП(б)Б мае ўсё неабходнае для канчатковага разгрому контррэволюцыі» (16 з'езд КПБ, 1937).

«Вопрос «мовы» решен раз и навсегда» (Лукашэнка, 2015).

Завершанасць раю і пекла тут падкрэсліваецца словамі «канчаткова і беспаваротна», «раз і навсегда», але часцей рай стабільнасці і шчасця прадстаўлены ў навамоўі перабольшваннямі, лісливасцю і амаль непрыхаванай слоўнаю парнаграфіяй:

«У сваім пісьме мы выказалі ідучыя з глыбінь сэрцаў думкі і пачуцці ўсіх нашых камуністаў, усіх працоўных нашай рэспублікі, іх беззаветную адданасць ідэалам камунізму і асаблівую нашу ўдзячнасць ЦК КПСС, асабіста таварышу Л.І. Брэжневу». (Працяглыя апладысменты). (28 з'езд КПБ, 1976)

*Звонкай радасцю багата*
*Юнасць гаварлівая.*
*Мы савецкія дзяўчаты –*
*Самыя шчаслівыя.*

(Сучасны беларускі фальклор, 1963)

*А у водоемов Беларуси*
*Хищники гнездятся хорошенько.*
*Кто они? — дознаться не берусь я,*
*Если не поможет Лукашенко.*

(Браніслаў Спрынчан, 1995).

У гэтым вершы сінявокі рай пад апекаю кіраўніка Беларусі абкладзены ворагамі, якіх прэзідэнт называе і прызначае.

### Чацвёртая: словы-цэтлікі

Тыповая рыса навамоўя — словы-цэтлікі, што навешваюцца на людзей ці на з'явы. Сацыялістычны і буржуазны, прагрэсіўны і рэакцыйны, народны і антынародны, нацыянал-фашыст, нацдэм, нацыяналіст, інтэрнацыяналіст, ленінскі, сацыялізм, камунізм, капіталізм, фармалізм, мадэрнізм.

Савецкае навамоўе вельмі любіла абстрактныя цэтлікі — мудрагелістыя словы з няясным зместам. Майстрам такіх цэтлікаў быў Ленін, у ягоным выкананні гэтыя словы пераўтвараліся ў сапраўдную лаянку: рэвізіяністы, ідэалісты, адзавісты, ліквідатары, махісты. Працяг не прымусіў сябе доўга чакаць:

«Гэта быў поўны разгром «эканамізма», разгром ідэалогіі апартунізма, хвасцізма, самацёку» (Гісторыя УсеКП(б). Кароткі курс, 1938). «У адносінах да прымірэнцаў усякага роду будзе правільна сказаць, што гэта толькі перафарбаваныя, замаскаваныя правыя або «левыя» ўхілістыя» (13 з'езд КП(б)Б, 1931).

Навамоўе зацята робіць цэтлікі з імёнаў: «Нават [...] у пытаньні трактаразабясьпечаньня, мы адчуваем спадчыну прышчэпаўшчыны [...] Партыя правяла рашучае змаганьне з прышчэпаўшчынай і нанесла ёй моцны ўдар» (13 з'езд КП(б)Б, 1931, у цэтлік пераўтворана прозвішча міністра земляробства Змітра Прышчэпава).

Сёння словы-цэтлікі жыўцом бяруцца з англійскай мовы: паводле сучасных гендарных штудый трэба ўсяляк выкрываць сексістаў, фатыстаў, трансфобаў і гамафобаў, эйджыстаў, эйблістаў, віктымблэйераў і аб'юзэраў, не гаворачы ўжо пра патрыярхальных агентаў таксічнай ідэалогіі газлайтынга і слатшэймінга.

З гэтай буйной словатворчасцю не параўнаюцца непрыкметныя «капэзэсьнікі», «агэпоўцы» і «квазі-апазыцыя», сурова асуджаныя Зянонам Пазняком. Негатыўныя — у вуснах правых

# навамоўя. Частка I

палітыкаў цэтлікі — «атэізм», «фемінізм» таксама не набылі ўсеагульнага адмоўнага значэння. Болей пашанцавала такім клішэ, як «нацыянальны» і «антынацыянальны», не здаючь першыя пазіцыі інтэрнэтныя «ватнікі» і тэлевізійныя «бандэраўцы». Да цэтліка набліжаюцца леваліберaлы», якія замахваюцца на «традыцыйную мараль» з яе традыцыйнымі каштоўнасцямі (быццам, бывае нетрадыйная мараль з нетрадыйнымі каштоўнасцямі).

Каб стаць навамоўным цэтлікам, нейтральнае слова набіраецца эмоцый — і далей слова-ацэнка ўжываецца як прылада для смяротнага бою. Навамоўнае слова-клішэ не адкрывае дыскусію, а касуе яе, не слухае іншага, а затыкае яму рот, не шануе людскай годнасці, а пераўтварае чалавека ў мёртвую рэч: у манумент ці адкід.

## Пятая: неперакладальнасць

Навамоўе — гэта маналог, і адзін з яго элементаў — ужыванне неперакладальных скаротаў і выразаў. Навамоўны выраз нельга проста так патлумачыць уласнымі словамі, бо гэта пагражае палітычнай ерассю. Навамоўю трэба падпарадкоўвацца.

Паспрабуйце перакласці, напрыклад, апісанне газеты «Сталінец», што выходзіла ў 1934-1936 гадах (сама назва газеты ўжо гаваркая): «Сталінец: орган политотдела и рабочкому свиносовхоза имя Сталина Дзяржынскага раёна».

«Рабачком свінасоўгасу» — гэта значыць, рабочы камітэт свіной савецкай гаспадаркі, але падрабязная расшыфроўка губляе свой непаўторны водар. А як вам падабаецца «Чырвоны прадзільшчык: орган партбюро КП(б) Беларусі і фабкома Віцебскай ільнопрадзільнай фабрыкі імені Л. М. Кагановіча, 1929-1941 гг.»? А лікбез (ліквідацыя непісьменнасці, рус. безграмотности)?

Перад навамоўным скаротам ЛГБТК+ трэба схіліць галаву: скарот нязручны і груваскі, які да таго ж патрабуе здольнага скланяцца ўдакладнення (група ЛГБТК+, тэма ЛГБТК+, супольнасць ЛГБТК+). Увогуле, неперакладальнасць навамоўя задаецца адмысловай лексікай, марфалогіяй і цяжкім, «драўляным» сінтаксісам.

«Драмгуртом школы мяркуе выступіць на клубнай сцэне соўгаса «Полымя», дзе будзе праведзен сумесны вечар рабочых соўгаса з рабочымі Бурбінскага спіртзавода» (Газета «Большэвіцкая трыбуна», 23 лютага 1952).

«Цытаванне **вачавідна** дыскрымінуючых (гамафобных, сэксісцкіх) выказванняў без каментара з боку журналіст_кі/аўтар_кі матэрыялу, які б вызначаў размежаванне паміж пазіцыяй інтэрв'юяванага_ай і пазіцыяй журналіст_кі» (Гендарныя аспекты мовы варожасці ў беларускіх медыя, 2016. Праз падкрэсліванні і ўкосы аўтаркі звярталіся да мужчынаў, жанчынаў — і да людзей з іншаю тоеснасцю, але атрымалася зусім нечытэльна. Я не кажу ўжо пра **відавочныя** памылкі). Нарэшце:

«Камуністычная партыя Беларусі [1], рабочы клас [2], калгаснае сялянства [3], інтэлігенцыя нашай рэспублікі [4], увесь беларускі народ [5] цесна згуртаваныя вакол роднай Камуністычнай партыі, не пашкадуюць сіл і энергіі для практычнага ажыццяўлення задач, пастаўленых партыяй, і ўнясуць свой дастойны ўклад у справу будаўніцтва камуністычнага грамадства ў нашай краіне» (26 з'езд КПБ, 1966, нумарацыя мая).

Апошні прыклад дэманструе яшчэ адну рысу навамоўя — рытуальнасць.

## Шостая: рытуальнасць

Рытуальнасць азначае, што ў пэўных сітуацыях можна казаць толькі так, і ніяк не інакш. І гаварыць можа толькі чалавек на пэўнай пасадзе. У застылых формулах за паслядоўнасцю слоў хаваецца грамадская іерархія. Давайце яшчэ раз зірнём на прыведзены прыклад.

На першым месцы тут стаіць 1) камуністычная партыя, гэта цэнтр савецкага свету. За ёю — 2) рабочы клас, 3) трэцяе кола ствapae калгаснае сялянства, а 4) інтэлігенцыя — самая ненадзейная частка камуністычнага ладу — выціснутая на перыферыю. Заўважым, што 5) увесь беларускі народ, які ідзе следам, уключае ў сябе камуністычную партыю Беларусі, яе рабочы клас, калгаснае сялянства, інтэлігенцыю, а таксама неназваных іншых, так што савецкі парадак, ачолены камуністычнаю партыяй, татальны і ахоплівае ўсіх.

Уласнай рытуальнай іерархіяй могуць пахваліцца даследчыцы і даследчыкі, якія змагаюцца ў сённяшняй Беларусі з мовай нянавісці. У іх публікацыях усталявалася такая сталая паслядоўнасць:

«Дзякуючы рэакцыі [1] праваабаронцаў, [2] грамадскіх актывістаў і [3] медыя тэма мовы варожасці выходзіць на новы ўзровень абмеркавання».

Праваабаронцы займаюць тут пасаду камуністычнай партыі, ролю рабочых і калгаснікаў выконваюць грамадскія актывісты, а медыя, якім рэкамендацыі і прызначаныя, знаходзяцца на самым апошнім месцы. Паказальна, што грамадскія актывісты таксама маюць сваю субардынацыю: першынства за ЛГБТ-актывістамі.

Пры гэтым тытулатура сексуальных меншасцяў разрастаецца хутчэй за пасады Генеральнага сакратара ЦК КПСС, Маршала Савецкага Саюза, тройчы Героя Савецкага Саюза Леаніда Ільіча Брэжнева. Калі ў 2015/16 годзе ў «Маніторынгу мовы нянавісці» пераважаў тытул ЛГБТ, то ў 2019 годзе гэта ўжо толькі і выключна — ЛГБТК+. У 2015 годзе рэкамендавалася 20 слоў для правільных назваў, а ўсяго праз год такіх слоў — у тры разы болей. Рытуальнае разбуханне з'яўляецца яскраваю рысаю навамоўя.

## Сёмая: самавольнасць

Рытуальная закасцянеласць парадаксальным чынам спалучаецца з самавольнасцю. У навамоўі словам і выразам надаецца сэнс, які толькі захочацца — у залежнасці ад палітычнай сітуацыі. Што абразлівага, напрыклад, у выразе «тэатральныя крытыкі»? Але ў 1949 годзе, пасля публікацыі ў газеце «Праўда» артыкулу з пагрозлівай назвай «Аб адной антыпатрыятычнай групе тэатральных крытыкаў», сціплыя тэатральныя крытыкі пераўтварыліся ў небяспечных «бязродных касмапалітаў». У сталінскія часы выраз «культ асобы» азначаў выбрыкі контррэвалюцыйных пісьменнікаў, якія выслаўлялі палавую распусту, а па смерці Сталіна гэты выраз — з партыйнай падачы — быў ужо эўфемізмам для сталінскай дыктатуры.

Свае нечаканыя сэнсы прыпісваюць фразам пра Другую сусветную вайну беларускія «Журналісты за талерантнасць». Паводле актывістаў з гэтай групы, сёння аніяк нельга гаварыць «нямецка-фашысцкія захопнікі», «нямецкі канцлагер» і «нямецкі палон», бо гэта «мова варожасці» на этнічнай глебе. Увогуле, складаецца ўражанне, што свае рэкамендацыі і разлікі актывісты бяруць са столі.

Вось іх апошняя справаздача за студзень-верасень 2019 года. Адкрываем наўздагад дзве публікацыі з «Бярэзінскай панарамы» з мовай варожасці на глебе ксенафобіі. Адзін матэрыял — «Пасланне Прэзідэнта да беларускага народа». Звычайна ў прамовах першай асобы дзяржавы, і асабліва ў яго лірычных адступленнях, нянавісці хапае. Але тут усё вельмі нудна, тэкст прычасаны. І дзе там нянавісць? Хіба, да фашысцкіх захопнікаў (няўжо, фашыст — гэта нацыянальнасць?). А можа, мова варожасці на этнічнай глебе — гэта прапанова «беларусам [...] актыўней удзельнічаць у азеляненні»? Нават стандартныя «нямецка-фашысцкія захопнікі» з іншай публікацыі «Бярэзінскай панарамы», дзе гутарка ідзе пра 95-гадовага ветэрана, — гэта старое савецкае клішэ, якое ад пачатку мусіла сцішыць свой «нямецкі» пафас праз інтэрнацыянальнае «фашысцкае» ўдакладненне.

Яшчэ неабгрунтаваней гучаць заявы даследчыц Аліны Крушынскай і Аляксандры Ігнатовіч. У 2016 годзе яны абвясцілі, што парада сексолага палюбіць дзіця да яго нараджэння з'яўляецца тыповай праявай... мовы варожасці. Даследчыцы «Гендарных аспектаў мовы варожасці» патлумачылі: «Такім чынам стыгматызуецца вопыт людзей, якія ведалі, альбо якім казалі, што іх нараджэння было непажаданым для іх бацькоў. Дадзенае сцвярджэнне непаўнавартасці пэўных індывідаў ствapae негатыўны стэрэатып у тым ліку і пра людзей, якія выхоўваліся ў дзіцячых дамах і іншых дзяржаўных інстытуцыях у сувязі з тым, што іх бацькі адмовіліся ад іх выхавання».

Я паважаю права даследчыц на адметныя азначэнні, сярод якіх і мова варожасці. Але кожнае азначэнне са знаёмымі словамі мусіць пашыраць і ўдакладняць ужо існыя ва ўжытку сэнсы, а ніяк не перакульваць іх дагары нагамі, каб не атрымалася, як у рамане Оруэла, што «Вайна ёсць мір», а «Свабода — гэта рабства». У дадзеным выпадку менавіта такі адвольны перакрут і адбыўся: любоў ёсць нянавісць.

Калі на гэтым тле — у «Брашуры для журналістаў» — патрабуюць лічыць абразлівым нейтральны выраз «сексуальныя меншасці», то гэта ўжо дробязі. Затое, калі змагаюцца за неўжыванне словаў «транссэксуал» і «трансгендар» — гэта самавольнасць, якая сама сябе выкрывае.

Давайце зірнём на артыкул «Топ-7 советов журналистам и сетевым авторам. Как писать о транссексуалах?» ад 2016 года. Артыкул патрабуе: «Ніколі не выкарыстоўвайце наступныя словы: транссэксуал, трансвестыт [...] змена полу. Замест іх лепей выкарыстоўваць: транссэксуальная кабета, трансгендарная кабета, транссэксуальны мужчына, трансгендарны мужчына [...] трэці пол, пераход».

Вось толькі ў самім тэксце гэтыя патрабаванні ігнаруюцца. Усцяж сустракаюцца забароненыя «транссэксуалы» і «змена полу», а рэкамендаваныя словы адсунутыя на дзясятыя ролі. Анастасія Шылава, якая пераклала артыкул з англійскай мовы, паспрабавала накінуць «транссэксуалам» з рускай (і беларускай) мовы экспрэсію амерыканскага жаргону, дзе адпаведнае слова (tranny) гучыць адмоўна. Мушу тут нагадаць, што кожная мова мае ўласныя правілы і рабіць адвольныя пераносы з адной мовы ў іншую не выпадае.

Але навамоўе не хвалююць нейкія моўныя правілы, бо яно само задае іх згодна са сваёй палітычнаю логікай. І ў яшчэ меншай ступені хвалююць навамоўе пратэсты журналістаў, якім загадана яго ўжываць — і меркаванне груп, якіх навамоўе абараняе.

У 2017 годзе абаронца Віялета Ермакова зрабіла спробу навучыць як журналістаў, так і меншасці, правільнаму слоўніку, прыводзячы незвычайныя лінгвістычныя аргументы: «Мы на ўсіх [...] маніторынгах казалі, што «трансгендар» — гэта некарэктная лексіка. Гучыць як «трансформер», вельмі абясчалавечвальна [...] Яно [...] праводзіць межы: ёсць людзі, а ёсць трансгендары».

Але потым экспертка здалася: «Але [...] па факце, гэтя слова выкарыстоўваецца як нейтральнае. У мяне цяпер пытанне да транс-супольнасці Беларусі: як вы хочаце, каб вас называлі»?

Падумаць толькі! Усяго на трэці год зацятай барацьбы з мовай нянавісці дыпламаваныя абаронцы зрабілі ласку і пацікавіліся саманазвай абараняемых. Дарэчы, яны маглі гэтага і не рабіць: Карла Маркса таксама не цікавілі імёны пралетарыяту, але толькі яго лёс і сусветна-гістарычная місія, якую Маркс пралетарыяту прадпіша.

## Недакладнасць выразаў, эзопава мова — восьмая пастка

У грамадстве, дзе пануе навамоўе, мастакі прыбягаюць да эзопавай мовы, каб сказаць недазволенае. Але, як ні дзіўна, эзопавай мовай карыстаецца і ўлада — каб недазволенага не сказаць. Галаўным болем для яе становяцца поспехі ворагаў і ўласныя пралікі, якія ўсяляк прымяншаюцца. Падвышэнне цэнаў становіцца «карэкцыяй» (яшчэ і на шматлікія просьбы працоўных!), брак мяса і малака — «рэгуляцыяй», а разгул злачыннасці і павальнае п'янства на працы — «асобнымі недахопамі». Паглядзіце, як выкручваецца першы сакратар КПБ, калі гаворыць пра гэтыя недахопы: «У атмасферы сумленнай, самаадданай працы, сацыялістычнага калектывізму асабліва нецярпімыя факты адхілення ад выпрацаваных рабочым класам, народам традыцый і норм савецкага ладу жыцця. Злоўжываючы нашым гуманізмам, асобныя грамадзяне вядуць паразітычнае існаванне, раскрадаюць сацыялістычную ўласнасць, парушаюць грамадскі парадак, падрываюць дысцыпліну працы». (27 з'езд КПБ, 1971).

Асобныя грамадзяне, пэўныя людзі, некаторыя таварышы могуць перайсці ў катэгорыю ворагаў, а могуць застацца «нашымі таварышамі», якія робяць раздражняльныя ўчынкі, але вялікіх рэпрэсій не заслугоўваюць.

«Некаторыя таварышы думаюць: "Ну, слава алаху, ЦКК ліквідавалі [...]" Хто так разважае, той нічога не разумее ў тэзісах па дакладу тав.Кагановіча аб рэарганізацыі кантрольных органаў партыі» (15 з'езд КПБ, 1934)

«У некаторых нашых таварышоў можа закружыцца галава ад такіх поспехаў [...] Ёсць небяспека, што сёй-той з нашых таварышоў, ап'янеўшы ад поспехаў, зазнаецца ўканец» (Сталін, 1934).

А ў гэтым выступе Сталіна за галавакружэннем ад поспехаў хаваецца страшная праўда пра здзекі з сялянства, якое гвалтам заганялі ў калгасы. А вось у іншым прыкладзе гэтыя некаторыя заслугоўваюць актыўнага лікбезу, каб не ўхіляцца ад адзіна правільнай генеральнай лініі:

«Сцэнар сексуальных паводзінаў не прывязаны да гендара «генетычна», а гендар — да біялагічнага полу. Некаторыя гомасексуальныя людзі, тым не менш, трымаюцца тэорыі, што сексуальная арыентацыя генетычна абумоўлена і не з'яўляецца персанальным выбарам», — праводзяць гендарную адукацыю Алена Мінчэня і Вольга Сасункевіч (Гендерный ликбез, 2013).

Навамоўе ворагу не спачувае, таму, калі адбылося гора, ахвяру лепей перайменаваць — дый так, каб ніхто не здагадаўся, пра каго гутарка. Пасля тэрарыстычных актаў на Шры-Ланцы Хілары Клінтан і Барак Абама выказалі спачуванне нейкім шанавальнікам Пасхі (Easter worshippers), за якімі хаваліся звычайныя хрысціяне. Але ў свеце Абамы і Клінтан, дзе пануюць ісламафобія і белая дамінацыя, прыгнятальнікі-хрысціяне на ахвяраў не надаюцца, а імя Хрыст-іяне не павінна прагучаць.

**Заканчэнне ў наступным нумары**

# Шэкспіраўскі блакбастар па-купалаўску

Настасся ПАНКРАТАВА

**Тры дачкі, адзін бацька-самадур і прызнанне ў любові ў абмен на багаты пасаг: Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы паставіў «Караля Ліра» Уільяма Шэкспіра.**

Прэм'ерны спектакль — раскоша для вачэй. Пачынаючы ад трапнай афішы, зробленай мэтрам плакату Уладзімірам Цэслерам. Вялікую сцэну другі раз за сезон аддалі Кацярыне Шымановіч, якая працягвае эксперыментаваць. Яна абірае простую палітру колераў — белы, чорны, чырвоны для асноўнага складу персанажаў і суцэльны жоўты для каралеўскага блазна, аднак гуляе на фактуры матэрыялаў. У выніку касцюм з усяго аднаго колеру не падаецца манатонным, наадварот — прымушае разглядаць кожную дэталь. Мастачка нават супрацьпастаўленне злых і добрай сёстраў выбудоўвае на ўзроўні іх строяў: металізаваны адліў сукенак старэйшых і ў процівагу ім — мяккія струмені тканіны ў малодшай.

Сцэнограф наўпрост візуалізуе выслоўі «вешае локшыну на вушы», даючы ў рукі ашуканцу даўгія макароніны, ці «стары, быццам мохам зарос» — «прарошчвае» на плашчы Ліра купкі балотнай травы. Натуральным чынам раздзіраецца паміж спадчыннікамі пасаг: на вачах гледачоў герцагі разрываюць карону ўладара, мантыю-карту каралеўства. Нават трон пад націскам сквапных дачок разлятаецца на дзве палавіны.

Чаму я так доўга гавару пра мастацкі складнік? На жаль, апошнім часам спектаклі Купалаўскага цікавей разглядаць, чым глядзець. Калі ў візуальным плане ёсць за чым сачыць, то пра рэжысёрскія адкрыцці гаварыць складаней. Пакуль «Кароль Лір» жыве за кошт асабістых напрацовак пэўных акцёраў, аднак суцэльнага выказвання спадара Пінігіна, дзеля чаго сёння ён звярнуўся да п'есы Шэкспіра, няма.

Не адарвацца ад неверагоднага Віктара Манаева ў ролі Ліра. У першым акце ён размашыста, з відавочным задавальненнем грае самадура, што хоча адказнасць за кіраванне краінай перакласці на плечы іншых, аднак пры гэтым патрабуе ўсё так жа бездакорна падпарадкоўвацца яму. Ягоны Лір у ваенным фрэнчы і ботах з акрываўленымі падэшвамі


Аляксандр Казела і Віктар Манаеў

ўпіваецца сваёй веліччу і хоча ў вачах набліжаных да яго — не важна, слуг ці родных дачок — бачыць толькі пакорлівасць і ўгодлівасць. Атачэнне пра гэта ведае, таму выдае словы, якія менавіта яму і патрэбныя. Аднак як толькі тыран губляе рычагі ўлады, выхаваныя ім дзеці перастаюць падладжвацца пад капрызы дэспата.

Здавалася б, рэжысёр намацаў свой падыход да тэксту і хоча паказаць сясцёр не гаргонамі, а замучанымі бацькам ахвярамі. Аднак у другой дзеі шэкспіраўскі матэрыял пачынае супраціўляцца гэтай інтэрпрэтацыі: рэплікі і ўчынкі персанажаў не адпавядаюць закладзеным у першым акце задумам: дочкі інтрыгуюць супраць бацькі і не могуць падзяліць палюбоўніка, адзін з герцагаў нечакана выступае на баку Ліра і гэтак далей. Рука рэжысёра перастае адчувацца, дзеянне выходзіць на адлюстраванне тэксту Шэкспіра і не адрозніваецца ад дзясяткаў іншых «Ліраў» у шматлікіх тэатрах. Манаевым працягваеш заварожвацца, захапляцца ягоным пераўвасабленнем, уменнем паказаць і шаленства Ліра, і трызненне, і гора ад страты адзінай дачкі, якая шчыра любіла яго. Шкада толькі, што рэжысёрам так і не была выбудавана матывацыя ўчынкаў галоўнага героя.

З сюжэтнымі лініямі шматлікіх персанажаў другога плану тая ж бяда. З чарады прадказальных герояў запамінаюцца адзінкі акцёрскіх работ. Вось эксцэнтрычны Аляксандр Казела, талент якога чарговым разам эксплуатуюць для блазна. Дзмітрый Есяневіч — адзін з нямногіх, хто не выключаецца з ролі паміж рэплікамі, ды ўвогуле — натуральна існуе на сцэне. І канешне ж, яскравы Іван Трус, які глыбока пражывае тэкст ад пачатку да апошняга слова. Ён імгненна перайначваецца з быццам бы недалёкага прасцяка ў бяздушнага кар'ерыста і назад, фантастычна ўвасабляючы двуаблічча. Ягоны байструк Эдмунд — чалавек, поўны комплексаў, які сваімі ж страхамі і зайздрасцю прымушае сябе давіць тых, хто любіць яго, і падлашчваецца да тых, у каго ёсць улада.

Прэм'еры Купалаўскага не хапіла рэжысёрскай арыгінальнасці і аўтарскага прачытання вядомай п'есы, каб гледачы, калі выходзяць з залы, гаварылі не толькі пра неверагоднага Манаева ці запамінальнага Труса, але і пра глыбіні чалавечага крывадушша і сквапнасці — пра тое мастацкае абагульненне, што абвяшчалася ў анатацыі да спектакля, аднак так і не паўстала на сцэне.

**Фота: тэлеграм-канал Купалаўскага тэатра**

# БагатаДата

**Ведаеце, калі запрацавала першая электрастанцыя ў Мінску? А пра тое, што яе знеслі зусім нядаўна? Іншыя цікавосткі — у нашым аглядзе.**

## 11 студзеня

**Міжнародны дзень «дзякуй»**

**1890.** У Маскве нарадзіўся наркам аховы здароўя БССР у 1920-я гады Міхаіл Барсукоў. Пазней быў старшынёй Усесаюзнага таварыства гісторыкаў медыцыны.

**1955.** У пасёлку Азарычы Калінкавіцкага раёна на Гомельшчыне нарадзіўся адзін з самых папулярных беларускіх мастакоў сучаснасці Аляксандр Ісачоў. Яго першая персанальная выстава ў 1987 годзе ў Рэчыцы, дзе ён тады жыў, мела незвычайную папулярнасць — яе паглядзелі 20 тысяч чалавек. Праз тры дні пасля яе закрыцця жывапісец памёр. Праз паўгода ў 1988-м выставу яго твораў у Мінску наведалі ўжо 200 тысяч чалавек. Пры гэтым Ісачоў быў самавукам — за плячыма ў яго была толькі няскончаная мастацкая вучэльня. А вядомасць творца атрымаў у савецкім Ленінградзе, дзе нейкі час жыў, праз выставы нефармальных мастакоў. Таксама стаў вядомы на Захадзе. У Беларусі распісваў храмы.

## 12 студзеня

**1895.** У Мінску запрацавала першая электрастанцыя. У наш час мела статус помніка архітэктуры, знаходзілася на беразе Свіслачы побач з цыркам. Была знесеная дзеля пабудовы гатэля «Кемпінскі» (насамрэч, сетка «Кемпінскі» да яго дачыненне не мае. — Рэд.), будынак якога многія жыхары сталіцы лічаць звыродлівай спарудай, якая сапсавала краявід.

## 13 студзеня

**1920.** У Мсціславе на Магілёўшчыне нарадзіўся скрыпач і дырыжор Барыс Афанасьеў. Быў канцэртмайстрам Сімфанічнага аркестра БССР, мастацкім кіраўніком Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Кіраваў таксама Тэатрамі оперы і балета ва ўкраінскіх Адэсе і Дняпры.

**1940.** У вёсцы Старыя Галоўчыцы Петрыкаўскага раёна на Гомельшчыне нарадзіўся грамадска-палітычны дзеяч Міхаіл Марыніч. Старшыня Мінскага гарвыканкама, дэпутат Вярхоўнага Савета, міністр знешніх эканамічных сувязяў. Пасол у Чэхіі, Славакіі, Венгрыі, Латвіі, Эстоніі ды Фінляндыі. У 2001 годзе пайшоў у адстаўку з дыпламатычнай працы, каб узяць удзел у прэзідэнцкіх выбарах. Але кандыдатам у прэзідэнты зарэгістраваны не быў, бо не набраў неабходнай колькасці подпісаў выбаршчыкаў за сваё вылучэнне. У 2004 годзе быў арыштаваны і прысуджаны да 5 гадоў калоніі па абвінавачванні ў завалоданні аргтэхнікай (бязвыплатна перададзенай асацыяцыі «Дзелавая ініцыятыва» Марыніча пасольствам ЗША ў Беларусі, якое прэтэнзій не мела). Камітэт ААН па правах чалавека прызнаў палітыка ахвярай палітычных рэпрэсій.

## 14 студзеня

**1920.** У вёсцы Плёсы Бабруйскага раёна на Магілёўшчыне нарадзіўся літаратар Мікола Аўрамчык. Разам з Нілам Гілевічам пад псеўданімам Францішак Вядзьмак-Лысагорскі напісаў знакамітую паэму «Сказ пра Лысую гару».

## 15 студзеня

**1850.** У Маскве нарадзілася першая ў свеце жанчына-прафесар, а тасама пісьменніца Соф'я Кавалеўская (у дзявоцтве — Корвін-Крукоўская). Мела беларускія карані па бацьку, які быў генералам. «Калі мне было каля шасці гадоў, бацька выйшаў у адстаўку і пасяліўся ў сваім родавым маёнтку Палібіна ў Віцебскай губерні, — пісала Кавалеўская. — Тая мясцовасць, дзе знаходзіўся маёнтак Крукоўскіх, была хоць і вельмі дзікай, але больш маляўнічай за краявіды сярэдняй паласы Расіі. Віцебская губерня вядомая сваімі велізарнымі лясамі і мноствам вялікіх прыгожых азёр...»

Навуковыя працы Кавалеўскай былі па матэматычным аналізе, матэматычнай фізіцы і нябеснай механіцы, а таксама па дыферэнцыяльных ураўненнях. Яе творы — аповесць «Нігілістка», драма «Барацьба за шчасце».

## 16 студзеня

**Сусветны дзень «The Beatles»**

## 17 студзеня

**Дзень дзяцей-вынаходнікаў.**

**1860.** У Наўгародскай губерні Расіі нарадзіўся Павел Курлоў, які з 1905 года быў губернатарам Мінска. Вядомы Курлаўскі расстрэл мітынгу ў кастрычніку 1905 года — менавіта ад яго прозвішча. Са згоды Курлова жандары забілі 100 і паранілі 300 чалавек. Пачаліся абураныя пратэсты — і чыноўніка нават адклікалі ў Санкт-Пецярбург для правядзення расследавання. Але той усю віну ўсклаў на паліцыю. Таксама на Паўла Курлова былі ўчыненыя дзве спробы замахаў.

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**

**Адказы на крыжаванку «Паўстань за сябе, Беларусь» (НЧ №43 ад 22 лістапада):**

**Па гарызанталі:** 1. Бяроста. 5. Народзе. 8. Ласцік. 9. Віктар. 11. Свабода. 14. Устаў. 15. Ямант. 16. Пекла. 17. Бой. 18. Лес. 21. Агонь. 22. Прэса. 24. Кілім. 28. Тыранія. 30. Аблога. 31. Сутокі. 32. Кастусь. 33. Каракас.

**Па вертыкалі:** 1. Беларусь. 2. Росы. 3. Такса. 4. Грубка. 6. Адвал. 7. Дата. 10. Раманс. 12. Малайчына. 13. Вешальнік. 19. Праўда. 20. Хаміцыус. 23. Эшафот. 25. Станс. 26. Вясна. 27. Глос. 29. Воўк.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.
ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова № 43

Падпісана да друку 10.01.2020. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.